*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 15 красавіка 1988 г. № 16 (3426) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



Вядомы кінаакцёр, заслужаны артыст рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР Уладзімір Гасцюхін.

Фота В. ГАНЧАРЭНКІ.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ● НЕ ГРАШЫЦЬ СУПРАЦЬ ПРАЎДЫ
# ● ЛЯ СВІСЛАЧЫ, НА ТАТАРСКІХ АГАРОДАХ...
# ● КУДЫ ЗНІКАЕ «КАЛІ ЛАСКА»?
# ● КНІГУ ЛЮБЯЦЬ, АЛЕ...

●

**З вялікай цікавасцю** прачытаў у «ЛіМе» за 12 лютага г. г. артыкул А. Мальдзіса «Давайце будзем паслядоўнымі!» Сапраўды, нельга глядзець на жыццё толькі «праз ружовыя або толькі праз чорныя акуляры». Прадузятасць яшчэ нікому не была надзейным дарадцам, верным памочнікам. Грамадству ж, будучыні куды больш патрэбны «спакойныя, канкрэтныя, навукова-гістарычныя ацэнкі» дзейнасці шэрагу гістарычных асоб, мінулых і сённяшніх падзей.

Давайце глядзець на з'явы жыцця дыялектычна. Давайце прызнаемся, што, наадварот, у нас занадта шмат развялося нігілістаў у адносінах да роднай культуры. Прычым такіх, якія глыбока перакананы ў тым, нібыта матчына мова замінае інтэлектуальнаму развіццю дзіцяці, яго маральнаму выхаванню. Давайце пашкадуем, што занадта шмат у нас людзей з «далікатным музычным слыхам», якім роднае слова непрыемна рэжа вуха.

Жыццё — гэта не адвечны расклад руху на чыгуначным вакзале сучаснасці. Пасля красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК нашай партыі і XXVII з'езда КПСС большасць савецкіх людзей даўно ездзіць з куды большым маральным багажом, чым раней. Дык хай пераканаюцца такія нарэшце, што іх поезд пайшоў па прызабытым ужо намі раскладзе...

Мы жывём у час сапраўды наватарскіх пераўтварэнняў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Відавочна, што менавіта працай сумлення і душы нашых сучаснікаў закладваецца падмурак новай маралі. Адказнасць на нас за яе чысціню перад наступнікамі ляжыць велізарнейшая. Давайце ж нарэшце пачнём да канца ўсведамляць гэта, перастанем грашыць супраць праўды.

Гэтага не дабіцца, калі не пачаць напрацоўваць культуру палемікі, не імкнуцца да большай аб'ектыўнасці, кампетэнтнасці і аргументаванасці ў спрэчках. Цяжка зразумець людзей, якія задужа рэзка выказваюцца аб дзейнасці некаторых гістарычных асоб. Як гэта можна забываць, што светапогляд, жыццёвая пазіцыя чалавека фарміруюцца пад уплывам суб'ектыўных і аб'ектыўных фактараў? Чалавек — дзіця свайго часу. На гэты конт не трэба ламаць шмат дзідаў.

Не будзем хадзіць далёка па прыклады, паглядзім з большай увагаю на сябе. Ці такімі, як сёння, «смелымі і прынцыповымі», былі мы ў гады застою? Далёка не. Усе мы раптам «прозрели» вясной тры гады назад.

Добра, на поўныя грудзі дыхаецца ў атмасферы галоснасці і дэмакратызацыі. Але ж давайце задумаемся падчас над тым, як ацэняць тую нашу «маўклівасць» і ўгодлівасць. Свой прысуд яны вынясуць. І ёсць упэўненасць, што цяперашнія «суддзі» далёка не ва ўсім пагодзяцца з тымі ацэнкамі. Бо ў іх ёсць магчымасць спісаць свае ідэйныя і палітычныя памылкі на «націскны», каманднa-адміністрацыйны стыль кіраўніцтва.

І не трэба прыкідвацца «бязгрэшнымі цялятамі». Шмат хто з нас ішоў у тыя гады па шляху найменшага супраціўлення, не жадаючы ўскладняць сабе жыццё, псаваць кар'еру. У многіх цвярозы ўласны разлік браў верх над «здравым житейским смыслом». Ад чыіх вачэй хочацца нам схаваць усё гэта? Так было.

Былое — гэта наша бяда і радасць. Ад яго не схаваешся, іншага ніхто нам не пазычыць. Людзі, якія былі ў бядзе, звычайна знаходзяць агульную мову. Навошта ж ісці супраць гэтага правіла нам, каго таксама па-свойму закранула і пазначыла бяда застою? Памудрэлым у апошні час, нам застаецца змагацца за адно: за тое, каб жыццёвая праўда больш ніколі не разыходзілася з гістарычнай ісцінай. А гэта да многага абавязвае!

**Алесь ЛІСІЦКІ, журналіст.**

г. Жыткавічы.

●

**Хацелі б запытацца** ў гарадскіх улад: што паслужыла падставай для крутога спрамлення прыроднага рэчышча ракі Свіслач у раёне Траецкага прадмесця? Сёння на прыбярэжнай зямлі ўшчыльную да будынка Палаца спорту пракладзена новая ўзбярэжная, выкананы земляныя работы і, як бачна, усё падрыхтавана да затаплення вялікай тэрыторыі, вядомай мінчанам як былыя Татарскія агароды. Не так даўно тут размяшчаўся стадыён, які знеслі. Што ж замест яго? Мяркуючы па праведзеных падрыхтоўчых работах, тут хутка ўсё паглынуць хвалі.

Вялізная акваторыя пагражае змяніць гістарычны ландшафт да непазнавальнасці, дзе ў новай сітуацыі абавязкова «згубіцца» своеасаблівасць адрэстаўрыраванай забудовы Траецкага прадмесця.

Няўжо аўтары праекта і гарадское начальства не ведаюць, што ў культурных краінах непарушнасць гістарычных ландшафтаў строга ахоўваецца законам? Тут жа гаворка ідзе пра адно з самых унікальных месцаў нашай сталіцы.

І самае дзіўнае, што знойдуцца праектанты, вялікія прафесіяналы «дэмагогіі», каб апраўдаць сваю ідэю «ювенільнага мора». Але ці не лепш было б умацаваць берагі спрадвечнай Свіслачы, менавіта ў тым месцы, дзе ўтварае яна сваю прыгожую лукавіну, ды добра пачысціць рэчышча, нават і паглыбіць яго? А замест разбуранага стадыёна пабудаваць тэнісныя корты, стварыць добраўпарадкаваную зялёную зону, неяк з карысцю для гараджан выкарыстаць каштоўную тэрыторыю, што прымыкае да замчышча? Ды ці мала ўрэшце разумных варыянтаў?

Толькі непаважлівае і безгаспадарчае стаўленне да нашага горада магло нарадзіць і даць магчымасць ажыццяўляць праект затаплення тэрыторыі былых Татарскіх агародаў.

**Л. ЛІПЕНЬ, служачы; Л. КУЛЕШ, інжынер; С. САЛАЎЕВА, загадчык навукова - тэхнічнай бібліятэкі; Л. КОННАВА, інжынер.**

г. Мінск.

●

**З'яўляюся** вашым шматгадовым падпісчыкам. Лічу, што газета стала цікавай, да таго ж шмат у чым выйграла ад увядзення рубрыкі «З пошты «ЛіМа».

Я таксама падтрымліваю прапанову А. Царыкава і В. Лапіцкай («ЛіМ» за 5 лютага і 18 сакавіка г.г.) аб тым, каб перавезці прах нашага найлепшага Максіма Багдановіча ў Мінск.

Класік балгарскай літаратуры Іван Вазаў пахаваны ў цэнтры Сафіі ля сабора А. Неўскага. У цэнтры Каўнаса знаходзяцца магілы Майроніса і С. Нерыс. Максім-кніжнік мае для Беларусі не меншае значэнне, таму лічу, што дарагая ўсім беларусам магіла павінна знаходзіцца ў цэнтры Мінска — напрыклад, на Траецкай гары ля Вялікага тэатра.

І яшчэ адна прапанова. У гісторыі Беларусі шмат «белых плям», і было б вельмі хораша, каб «ЛіМ» адкрыў пастаянную рубрыку «Старонкі гісторыі Беларусі».

**С. ПАПОЎ, выкладчык Маскоўскага інстытута сувязі, кандыдат тэхнічных навук, 36 год.**

●

**Мяне,** рускага па нацыянальнасці чалавека, закранулі за жывое балючыя радкі верша Пімена Панчанкі «Развітанне». Безабаронная праўда паклікала мяне стаць поруч з аўтарам.

Чаму цяпер, калі кніжныя паліцы бібліятэк ломяцца ад кніг беларускіх аўтараў, калі на прылаўках кніжных магазінаў ляжыць шматтомнік беларускай народнай творчасці, выдадзены Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, — ні ў аўтобусе, ні на вакзале, ні нават на базары не сустрэнеш беларускай гаворкі? Чаму ў бібліятэках, клубах і дамах культуры літаратурныя дыспуты і чытацкія канферэнцыі вядуцца толькі на рускай мове?

Але ж і беларуская мова даўным-даўно вырасла з пялёнак, набыўшы свой моцны літаратурны голас у кнігах Мележа, Быкава, Шамякіна, Адамовіча і многіх іншых пісьменнікаў.

Мне здаецца, было вельмі крыўдна Алегу Лойку і Міколу Арочку, калі пасля іх выступлення ў раённым Доме культуры іх землякі, удзельнікі вечара, пачалі чытаць беларускіх паэтаў на рускай мове.

Сённяшняя вёска яшчэ гаворыць мовай бабуль і дзядоў. І дарослыя дзеці, прыязджаючы з горада ў роднае гняздо, таксама падтрымліваюць форму сувязі на роднай мове, стараючыся не крыўдзіць старых гарадскімі звычкамі. Значыць, у іх душах яшчэ захоўваюцца карэнныя ўстоі быту і павага да духоўных каштоўнасцей свайго народа. Але вось горад!.. Тут у сумятні НТР з яе прамысловай праграмай і прызыўнымі лозунгамі, якія крычаць бог ведае на якой мове аб інтэнсіфікацыі, цэнтралізацыі, уніфікацыі і іншых «ацыях». беларусы ўсё больш прыкметна перастаюць думаць па-беларуску... Яны ўжо чытаюць «Снежныя зімы» і «Сотнікава» ў рускім перакладзе.

Я не супраць Маякоўскага, але лічу, калі ўжо «Песнярам», падалося мала нацыянальнага фальклору і яны заспявалі Маякоўскага, то іх час пасылаць у «Волог-ду-гду...»

Клопат пра чалавека, пра яго дабрабыт аднолькава ўключае ў сябе і ўсведамленне сучасных умоў жыцця, і ўдасканаленне яго духоўнай культуры. З мацярынскім малаком, з калыханкі дзіця павінна ўбіраць родную мову, вучыць на ёй мысліць. Гэтаму павінны садзейнічаць і яслі, і дзіцячы сад, і асяроддзе, якое акружае дзіця на шляху сталення.

У. І. Ленін гаварыў: «Ніводнай прывілеі ні для адной нацыі, ні для адной мовы!» А таму, будзь ты хоць тройчы рускі ці ўзбек, але калі ўжо на правах грамадзяніна СССР прыехаў на жыхарства ў Беларусь, будзь добры — вывучы беларускую мову. Культуру і побыт народа, з якім ты сееш хлеб, збіраеш трактары і сядзіш за адным сталом, трэба паважаць!

**Р. ПАСТУХОЎ, электраманцёр.**

г. Слонім.

●

**Паважаная рэдакцыя!** Дазвольце мне, «прафесійнаму кнігалюбу», выказаць некалькі думак аб прыахвочванні чытача да беларускай кнігі.

Ясна, што кніга «ідзе» тады, калі чытачы свабодна валодаюць моваю, калі імя пісьменніка досыць папулярнае, а яшчэ — калі праводзіцца пэўная работа па прапагандзе кнігі.

Любоў да мовы, да кнігі трэба прывіваць з першых дзён, першых год жыцця маладога чалавека. Гэтую банальную ісціну сорамна паўтараць, але даводзіцца. А як ты яе прывіваць будзеш, калі, за рэдкім выключэннем, нават кнігі для самых маленькіх выдаюцца на шурпатай, неахайнай паперы, з бляклымі, невыразнымі ілюстрацыямі?! Яе і ў рукі браць не хочацца.

А дзе цікавыя, змястоўныя кнігі для падлеткаў, кнігі, якія знаёмілі б падрастаючых з лёсам нашай беларускай зямлі, яе лепшых сыноў і дачок? Дзве-тры назвы — і ўсё!

Скажу шчыра, прапагандаваць беларускую кнігу сярод навучэнцаў педвучылішча, у якім я працую,—справа даволі нялёгкая. І прычына не ў тым, што яны не любяць кнігу. Па-першае, многіх пісьменніцкіх імёнаў яны ўвогуле не чулі (школа з імі не знаёміць: «непраграмныя», а часу і на «праграмныя» не хапае). А па-другое, навучэнец або студэнт — не надта багатыя людзі. Таму яны заўсёды зазіраюць на адваротны бок кнігі. А там — о-ё-ёй! За амаль што брашуру ў мяккай вокладцы — 1 руб. 60 кап. Калі ж вокладка цвёрдая — рыхтуй, студэнт, сваё адна-двухдзённае ўтрыманне! Чэснае слова, язык не паварочваецца сказаць «купі!».

А можа, варта падумаць над тым, каб выдаваць лепшыя творы беларускіх класікаў, маладых пісьменнікаў і прыгожа, і нядорага, памятаючы, для каго ў першую чаргу яны прызначаны?

**С. ДЗМІТРЫЕВА, выкладчык педвучылішча.**

г. Пінск.

# У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ— ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

**Правы чалавека... Гэтая тэма стала асабліва актуальнай у наш час. Час, калі адбываецца перабудова ўсёй сістэмы міжнародных адносін, калі новае палітычнае мысленне заваёўвае ўсё новых прыхільнікаў ва ўсім свеце.**

**Невыпадкова аўтарытэтная Камісія па правах чалавека пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з кожным годам усё больш актывізуе сваю дзейнасць.**

**У адпаведнасці з правіламі ААН у 1986 годзе прыйшла чарга на старшынства ў Камісіі па правах чалавека рэгіянальнай групы сацыялістычных краін Усходняй Еўропы. На міжнароднай сустрэчы ў Гаване аднагалосна быў вылучаны кандыдатам на пост старшыні камісіі прадстаўнік Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Тым самым былі высока адзначаны міжнародны аўтарытэт БССР, а таксама прафесійны ўзровень беларускай дэлегацыі ў ААН, прынцыповасць яе членаў, уменне знайсці разумны кампраміс, выйсці на агульначалавечы ўзровень мыслення.**

**На 43-й сесіі Камісіі ААН па правах чалавека ў 1987 годзе старшынёй камісіі быў абраны прадстаўнік нашай рэспублікі, загадчык аддзела навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках АН БССР прафесар Леанід Яўменаў, які выконваў свае абавязкі на працягу года.**

**Нядаўна ў Жэневе скончылася 44-я сесія Камісіі ААН па правах чалавека, на якой былі падведзены вынікі работы гэтай арганізацыі за мінулы час і зроблена ацэнка сучаснага стану правоў чалавека ў свеце.**

**У ходзе дыскусіі, у якой прынялі ўдзел дзесяткі дзяржаў і недзяржаўных арганізацый, былі прыняты рэзалюцыі з асуджэннем масавых парушэнняў правоў чалавека на арабскіх тэрыторыях, акупіраваных Ізраілем, у Чылі, у ПАР, краінах з дыктатарскімі рэжымамі.**

**Сесія паказала ўзрастанне ўзаемасувязі паміж сацыяльна-эканамічнымі і грамадска-палітычнымі правамі.**

**Павага нашай краіны да міжнародных пактаў па правах чалавека і нашы намаганні па дэмакратызацыі савецкага грамадства выклікалі жывы водгук і падтрымку большасці дэлегацый.**

**На 44-й сесіі Камісіі ААН па правах чалавека выявіўся важны феномен нашага часу—разбураецца міф аб закрытасці сацыялістычнага грамадства. Гатоўнасць СССР да дыялогу па правах чалавека з усімі краінамі на роўнай аснове выбівае зброю з рук тых, хто прывык павучаць усіх астатніх.**

**Пытанне правоў чалавека — гэта вуліца з двухбаковым рухам. Самаўсхваленне з боку некаторых дэлегацый не змагло схаваць ад членаў камісіі фактаў парушэння правоў чалавека ў капіталістычных краінах. Савецкая дэлегацыя выказала сур'ёзную занепакоенасць з прычыны палітыкі расавай дыскрымінацыі, падаўлення грамадзянскіх свабод, паліцэйскага цкавання прыхільнікаў дэмакратыі і міру ў гэтых краінах. Зусім недаравальным з'яўляецца тое, што ў краінах з высокім узроўнем жыцця мільёны людзей пазбаўлены права на працу, жыллё, медыцынскае абслугоўванне.**

**Сесія адхіліла спробу дэлегацыі ЗША працягнуць у ходзе абмеркавання антыкубінскую рэзалюцыю. Пазіцыю суверэннасці і годнасці, занятую кубінскай дэлегацыяй, падтрымалі прадстаўнікі краін Лацінскай Амерыкі. Яны вылучылі прапанову прыняць запрашэнне Рэспублікі Куба да старшыні і членаў Камісіі наведаць востраў, каб на месцы пазнаёміцца са становішчам у галіне правоў чалавека.**

**Гэтую прапанову падтрымалі сацыялістычныя і недалучаныя краіны. Дэлегацыя ЗША апынулася ў ізаляцыі.**

**Сесія Камісіі ААН па правах чалавека па ініцыятыве сацыялістычных краін прыняла рэзалюцыю, якая настойвае на неабходнасці забеспячэння права чалавека на жыццё ва ўмовах супрацоўніцтва і даверу. 44-я сесія Камісіі ААН паказала, што пераважная большасць краін свету выступае супраць канфрантацыі, за пошукі шляхоў міжнароднага супрацоўніцтва.**

НА ЛІТАРАТУРНЫХ АГЛЕДЗІНАХ — ПРОЗА 1987-га

# Калі без АВАНСАЎ...

Таіса ГРАМАДЧАНКА

АГЛЯД вымагае ўвагі да ўсіх новых твораў. Аднак прынцып «кожнай сястрыцы па завушніцы» наўрад ці самы лепшы і для гэтага крытычнага жанру. Калі, вядома, не ісці ад звычайнага пераліку прозвішчаў, твораў, тэм, праблем.

Што кідаецца ў вочы пры першым поглядзе на прозу 1987 года? Гэта значная колькасць твораў пра мінулае народа, даўняе і больш блізкае. Ліхтар, запалены У. Караткевічам (а ён, бясспрэчна, зрабіў пакуль найбольш, каб зацікавіць чытача роднай гісторыяй), ярка свеціцца ў сутарэннях вякоў. Яго агеньчык вабіць да сябе іншых, маладых і сталых пісьменнікаў. Нават такіх прыхільнікаў сучаснай тэмы, як А. Асіпенка. У рамане «Святыя грэшнікі» («Маладосць», №№ 1, 2) ён зрабіў шырокі экскурс у сівую гісторыю.

Добра, што ў незабыўнага У. Караткевіча з'яўляюцца наступнікі, прадаўжальнікі ягонай справы. Добра і тое, што яны цярэбяць свае сцежкі. Побач з рамантычным, ці лепей сказаць, рамантызаваным узнаўленнем гісторыі, што было характэрна для твораў У. Караткевіча, а таксама М. Зарэцкага, Б. Мікуліча, усталёўваецца рэалістычнае, якое больш шырока абапіраецца на дакументы, на канкрэтныя гістарычныя падзеі. На гэтым шляху найбольшыя поспехі слушна, на маю думку, прадказваюць У. Арлову. У маладога празаіка ёсць тое, што называюць культурай творчасці, слова ў яго дакладнае і жывое, героі — нязмушаныя, дзейнічаюць заўсёды ў адпаведнасці са сваёй натурай, даўно мінулыя падзеі, канфлікты не асучасніваюцца.

Аповесць «Дзень, калі ўпала страла» («Маладосць», № 4) ліквідуе адну з белых плям на карце нашай гістарычнай прозы. Ажылі і наблізіліся да нас полацкі князь Уладзімір, яго лёс і справы, характэрныя штрыхі яго часу — пачатку XIII стагоддзя. У. Арлоў паказвае князя на апошнім этапе жыцця, калі ён рыхтаваў паход (паход не адбыўся) супраць рыжскага біскупа Альберта. Уладзімір паўстае цвёрдым, мужным, гордым чалавекам, патрыётам роднай зямлі. Тым самым адбываецца мастацкая рэабілітацыя полацкага князя, бо ў раней напісаным рамане «Меч князя Вячкі» (аўтар Л. Дайнека) Уладзімір паказаны ледзь не ранегатам.

Прысутнасць У. Караткевіча ў сённяшняй літаратуры выяўляецца не толькі ў тым, што ён, па сутнасці, пачынальнік сучаснай беларускай гістарычнай прозы. У мінулым годзе мы мелі магчымасць пазнаёміцца з новымі творамі пісьменніка, якія па тых ці іншых прычынах пры жыцці не былі надрукаваны, — апавяданнямі «Паляшук» («ЛіМ», 27.XI) і «Маленькая балерына» («Нёман», № 8), а таксама лістамі У. Караткевіча да Максіма Танка («Пачатак» — «Маладосць», № 1). Хоць апошнія не залічыш да мастацкай прозы, ды абмінуць іх з'яўленне нельга. Знакамітаму паэту пісаў шчыры, адкрыты ў сваіх пачуццях юнак, захоплены вялікай ідэяй стварыць «літаратурны тып, які з найбольшай паўнатой змалёўвае ўсю нацыю». Гэту ідэю ён увасабляў затым у раманах, аповесцях, вершах, паэмах, апавяданнях, драмах. Лісты адкрываюць неардынарнасць асобы маладога Караткевіча, яго глыбокае адчуванне патрэб роднай літаратуры. У іх выразна відаць своеасаблівы талент пісьменніка, які спалучаў «багаты запас гістарычных ведаў з яркім паэтычным уяўленнем» (словы В. Быкава).

Апавяданне «Маленькая балерына» было напісана, як гаворыцца, на першай хвалі развянчання культу асобы. Публікацыя ж яго стала магчымай праз дваццаць шэсць гадоў, ва ўмовах новага, больш паслядоўнага і смелага асэнсавання гэтай з'явы.

**Чалавек, узнесены ўладай на недасягальную вышыню, і юная балерына, надзеленая талентам «адной сваёй прысутнасцю каталізіраваць у іншых дабро». Здаецца, ён таксама паддаўся ўздзеянню маленькай балерыны: побач з ёй гэты чалавек добры і мяккі, часам нават сентыментальны, стомлены жыццём, уладай і сваёй несупыннай падазронасцю. На жаль, дабрыня і шчырасць не ўсемагутныя. Нават у хвіліны душэўнай адлігі не растае яго падазронасць. «Яны ехалі па Вялікай Пірагоўскай. Цьмяна чырванелі ў цемры муры Навадзевічага манастыра і важка бялеў сілуэт сабора.**

**— Калісьці вы будзеце вялікай, маленькая балерына. Але не думаю, што нават тады вы будзеце няшчырымі... Мне лёгка з вамі... як з нямногімі... Старому добра быць сярод такіх, як вы.**

**— А старэйшыя? — спытала яна.**

**Сусед спахмурнеў.**

**— З іх мала каму можна верыць, Ніна. Чалавеку нельга верыць пасля дваццаці пяці» (цытуецца беларускі варыянт апавядання, надрукаваны «Маладосцю» ў гэтым годзе).**

Адкрытасць жыццю і людзям, чым так кранае маленькая балерына, магчыма пры ўмове поўнай гармоніі чалавека са светам, але час, у які яна жыве, мала прыдатны для гэтага. Гармонія ў рэшце рэшт павінна быць парушана, тым больш, што захоўвалася яна ў многім дзякуючы людзям, якія хацелі абараніць дзяўчыну ад жорсткага і цяжкага. Маленькая балерына перажывае не проста расчараванне. У час спектакля, калі ахова пачала біць людзей, спыняючы шчыры парыў натоўпу да свайго правадыра, душа яе быццам разарвалася напапалам. Чысты, сонечны, наіўны юначы свет, які поўніў сэрца маленькай балерыны любоўю да кожнага, быў разбураны. У сувязі з гэтым гібель дзяўчыны на фронце ў першыя месяцы вайны ўспрымаецца як заканамерная з'ява.

ДРАМАТЫЧНЫЯ лёсы людзей, што сталі ахвярамі культу асобы, прыцягнулі ўвагу празаікаў А. Карпюка і В. Хомчанкі («Вялікамучанік» і «Я іх ратавала...» («ЛіМ», 17.VII і 4.IX). Творы кранаюць падкрэсленай ненадуманасцю жыццёвых калізій, чаму садзейнічае сама форма — няхітры пераказ таго, што адбывацца з героямі.

Апавяданні У. Караткевіча, А. Карпюка, В. Хомчанкі. Дзённікі Б. Мікуліча («Аповесць для сябе — «Нёман», № 3), беспадстаўна асуджанага, як і многія іншыя беларускія пісьменнікі ў 30-я гады. Аповесць С. Грахоўскага «А маці не спіць» («Маладосць», № 9), гераіня якой, перабіраючы ў памяці ўласнае жыццё, вяртаецца да гадоў калектывізацыі. Вось тое судакрананне мінулагодняй прозы з драматычнымі падзеямі нядаўняга мінулага. Падзеямі, якія доўгія папярэднія дзесяцігоддзі паказваліся, як правіла, у ненатуральна радасных і светлых танах.

Негатыўныя бакі рэчаіснасці 30-х гадоў знайшлі мастацкае асэнсаванне ў «ваеннай» аповесці В. Быкава «У тумане» («Полымя», № 5). Загад застрэліць Сушчэню без ніякіх разбораў і следства, думаецца, народжаны колішняй усеагульнай падазронасцю і стэрэатыпнасцю мыслення. Абставіны, паказвае аўтар, павярнуліся так, што Сушчэня застаўся жывы, загінулі тыя, хто выконваў загад. Аднак герой зусім не рады нечаканаму збавенню — выйсця для яго няма. Ён разумее: ні ў партызанскім атрадзе, ні ў роднай вёсцы яму не вераць і не павераць.

«У тумане» не першы твор пісьменніка, у якім закранаецца перадваеннае дзесяцігоддзе, а паводзіны чалавека на вайне разглядаюцца ў сувязі з папярэднімі падзеямі. Гэта было ў «Знаку бяды», «Кар'еры». В. Быкаў зноў адным з першых у нашай прозе ўзняўся на новы віток спасціжэння жыццёвай праўды.

**Здаецца, аднабаковасць падыходу пачынае пераадольвацца і ў дачыненні да нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі. Так, аўтар рамана «Пабуджаныя» («Маладосць», №№ 11, 12) Г. Далідовіч імкнецца сцвердзіць больш аб'ектыўны погляд на дзейнасць Беларускай сацыялістычнай грамады, разабрацца, што было тут здаровага, патрэбнага для тагачаснай сітуацыі і чаму, калі, дзе пачынаўся ўхіл у бок нацыяналізму.**

**З адлегласці часу многае ў мінулых падзеях здаецца простым і зразумелым. З-за гэтага памылкі людзей сяму-таму ўяўляюцца недарэчнымі і недаравальнымі. Прынамсі, так не адзін год было з лідэрамі нацыянальна-дэмакратычнага руху. Аўтар «Пабуджаных» пераканаўча паказвае складанасць падзей, у вірлівай плыні якіх лёгка было разгубіцца, як разгубіўся герой рамана Лашковіч. Той Лашковіч, які пры царызме за рэвалюцыйную дзейнасць адбыў у Сібіры на катарзе дзесяць гадоў. Пісьменнік раскрывае аб'ектыўныя (таксама былі!) і суб'ектыўныя прычыны, чаму шчырыя сумленныя змагары за вызваленне народа апынуліся побач з тымі, хто, на словах дбаючы пра незалежнасць роднага краю, гатовы быў «ратаваць» незалежнасць польскімі ці нямецкімі штыкамі.**

НАША проза яшчэ не сказала вялікую праўду пра адміранне старой і нараджэнне новай грамадскай фармацыі, не асэнсавала ў поўнай меры няпросты, праз памылкі і страты, шлях да новага жыцця. Нават самая, здаецца, распрацаваная ў літаратуры тэма — сялянства, вёскі — хавае ў сабе многае з той праўды, без якой мастацтва слова толькі коўзаецца па паверхні падзей. Цікавасць выклікае кожны жыццёвы пласт, узноўлены ў рамане Г. Далідовічам, аднак асабліва «мінскія» раздзелы, дзе паказваюцца ўзаемаадносіны розных палітычных груповак. Тут празаік сапраўды ідзе ў кірунку, «малаабжытым» нашай літаратурай.

Гэта характэрна таксама для твораў В. Коўтун і Я. Радкевіча. Са старонак раманаў «Крыж міласэрнасці» («Полымя», №№ 9, 10) і «Закон прыцяжэння» («Полымя», №№ 11, 12) у сённяшні дзень пастукаліся Алаіза Пашкевіч (Цётка) і Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі, паэтка-рэвалюцыянерка і таленавіты публіцыст, бальшавік-ленінец, якому партыя даручыла самыя розныя адказныя ўчасткі будаўніцтва новай рэчаіснасці. Пісьменнікі ўзнаўляюць толькі асобныя моманты з багатай на падзеі біяграфіі герояў. Цётка паказваецца ў «пецярбургскі» перыяд, калі была слухачкай курсаў Лесгафта, Лепяшынскі — у час працы ў Ліцвінаўскай школе-камуне, заснаванай ім з мэтай праверкі жыццядзейнасці школы новага тыпу.

Аднак якую б новую інфармацыю ні неслі ў сабе творы, мы не павінны забываць, што гэта мастацкая літаратура. І тут па розных прычынах радасць з нагоды з'яўлення раманаў ужо не такая вялікая.

Сярод герояў Г. Далідовіча нямала такіх, чые характары выпісаны пераканаўча. Гэта найперш вяскоўцы — старыя Нямкевіч і Гарбацэвіч, браты Чорныя, Кастусь, маці Алеся і маці Максіма, а таксама Муха, пан Скураны, Дзядзя, Міхайлаў (Фрунзе) і інш. Менш выразнымі атрымаліся вобразы грамадоўцаў Максіма Лашковіча, Сымона Васілевіча, Алеся Нямкевіча, а на іх у творы падае асаблівая ідэйна-мастацкая нагрузка. Менавіта да такіх змагароў за народную долю мы, сучасныя людзі, павінны паставіцца нарэшце па справядлівасці. Для гэтага неабходна не толькі прайсці іхнімі дарогамі, неабходна пранікнуцца іх болем, надзеямі, радасцямі, убачыць ва ўсім драматызме іх пастаці.

Прадстаўнікам інтэлігенцыі заўсёды быў уласцівы пакутлівы пошук дабра і справядлівасці, імкненне зразумець жыццё чалавека і народа. Яны найменш паддаюцца гіпнозу догм, здольны бачыць далей і глыбей за іншых. Шырокая эрудыцыя, веданне гісторыі, мастацтва, філасофіі дазваляе ім па-свойму глядзець на свет, выношваць самыя розныя ідэі перабудовы. Лашковіч, Васілевіч, Нямкевіч не ўздымаюцца ў такім плане над іншымі персанажамі рамана, ім відавочна не хапае інтэлектуальнай вышыні. Трэба сказаць, што ў творы адсутнічае герой, які б мог узяць на сябе цяжар асэнсавання падзей. Не зусім спраўляецца з гэтым і аўтар, таму раман расцягнуты, перанасычаны дакументальным матэрыялам.

Няма такога героя і ў «Законе прыцяжэння» Я. Радкевіча. Ім мог, павінен быў стаць Лепяшынскі — асоба неардынарная, рознабакова адораная, як і многія з тых людзей, якія здзейснілі першую ў свеце сацыялістычную рэвалюцыю. У рамане ж дзейнічае завельмі спрошчаны, да сумнага звычайны чалавек.

**Ці не галоўнае ў творы — глыбіня мастакоўскага пранікнення ў свет чалавечых пачуццяў, жывыя паўнакроўныя характары, дзякуючы якім набываюць чалавеказнаўчы змест грамадскія падзеі. Не заўсёды такога пранікнення дасягае Я. Радкевіч, у рамане часта паказ герояў падмяняецца пераказам таго, што яны робяць і адчуваюць. Прывяду фрагмент, які здаецца досыць характэрным для аўтарскай манеры пісьма: «А Павел Гарнакоў апрытомнеў ажно на другія суткі. І як толькі з'явілася здольнасць усведамляць сябе і навакольны свет, не страшэнны боль у галаве прымусіў яго застагнаць, а ўспамін пра тое, што адбылося з ім, з яго сябрам, з дзядзькам, з усёй ашалелай Кармой...**

**Задзірлівы, вясёлы, грубаваты, але свойскі — душа нараспашку — Ваня Салаўянчык; ветлівы, пачцівы, усмешлівы, выратавальнік боскіх стварэнняў, як ён называў сябе, Антан Карповіч, ну чым, скажыце, кепскія маладыя людзі?.. О звяр'ё пад чалавечымі маскамі!.. Як жа яны лютавалі, выгаляліся тут у сваёй жорсткасці і цынізме. Не стольні смерці хацелі Паўлавай, дзядзькавай, кольні іхняй прыніжанасці, іхніх пакут і духоўнага самазнішчэння. Смерць здавалася ім занадта лёгкім канцом, яна не дазваляла пасмакаваць чужы боль, відовішча запаволенай смерці, якая адбываецца на іх вачах, ад іхніх крывавых рук, наталіць паталагічную прагу крыві... Спярша ім патрэбен быў жудасны для нармальнай псіхікі, а для іх жаданы спектакль адрачэння ад чалавечай сутнасці. І яны загадвалі дзядзьку: напішы на чыстым аркушы паперы, што ты раскайваешся і шкадуеш аб супрацоўніцтве з бальшавіцкай уладай...» Душэўныя пакуты Паўла Гарнакова ад сутыкнення са здрадай і бесчалавечнасцю не надта кранаюць, бо «чужыя», газетныя словы на вуснах героя: «паталагічная прага крыві», «жудасны для нармальнай псіхікі спектакль», «чысты аркуш паперы», «супрацоўніцтва з бальшавіцкай уладай» і г. д. На жаль, Павел Гарнакоў у даволі густа заселеным рамане Я. Радкевіча не з'яўляецца выключэннем.**

В. Коўтун, думаецца, удалося дасягнуць таго мастацкага эфекту, калі герой (у даным выпадку гераіня) паўстае ў сукупнасці жывых чалавечых рыс. Характар Алаізы з'яўляецца своеасаблівым маральна-эмацыянальным эпіцэнтрам раманных падзей, яны быццам асветлены чулай да чужога болю і чужых пакут душой паэткі.

Жанчыны-творцы. Іх сапраўды няшмат ведае гісторыя. Але чаму? І чаму іх лёс, пачынаючы з напаўміфічнай Сафо, амаль заўсёды складваецца драматычна? В. Коўтун не абмінула гэтыя пытанні, тым больш, што жыццёвы шлях Цёткі ў нейкім сэнсе тыповы для жанчыны, якая пакінула мілае шчабятанне і аханне іншым, больш слабым, а сама прабіваецца да сэнсу быцця. Тыповы не абставінамі ці момантамі біяграфіі, а непамерным напружаннем, бескарыслівым, безаглядным выдаткаваннем духоўных сіл.

Гераіня В. Коўтун нясе крыж міласэрнасці: у перапоўненым несправядлівасцю свеце яна з тых, хто пакрыўджаны і прыніжаны, каму адмоўлена ў праве «людзьмі звацца». Для паэта быць з народам — значыць разумець яго, паважаць, верыць у светлую будучыню, для чаго зусім неабавязкова кідацца ў бездань чалавечых пакут. І ўсё ж некаторыя робяць так. Алаіза Пашкевіч ведала бальніцы для бедных і сірочыя прытулкі, бачыла хворых і абяздоленых, у гады першай сусветнай вайны паэтка стала сястрой міласэрнасці.

Гераіня твора едзе ў калонію пракажоных (гэты крок важны для разумення жыццёвага фіналу Цёткі — заўчаснай смерці ад тыфу). Аўтар рамана паказвае, што дзейсная, жывая натура Алаізы не прымае месіянства, самаўлюбёнага падзвіжніцтва. Яна адразу зразумела, што кола вялікага пакутніцтва, у якім жыве айцец Павел, свяшчэннік і ўрач каланістаў, ён «сам сабе стварыў, вымураваў з чужой і сваёй бяды... уцягнуў сумленне ў пакутніцкую маску». Міласэрнасць Алаізы Пашкевіч іншая. Ёй наканавана дзяліць беды не са жменькай адрынутых, а з народам, з мільёнамі людзей, «якія гінуць ад яшчэ горшай за праказу хворай рэальнасці. Ад цемені і галечы, ганебнага падаўлення ўласнага гістарычнага «мы», рабскай пакорлівасці насіллю і духоўнай смерці». Ёй наканавана дзяліць беды і палымяным словам паэта будзіць чалавечую годнасць, гонар, сумленне.

Раман «Крыж міласэрнасці» — першая вялікая празаічная рэч вядомай паэткі. Гэтым, пэўна, можна растлумачыць, што не ўсе героі, не ўсе сцэны аднолькава добра ўдаліся аўтару, што твору месцамі бракуе кампазіцыйнай зладжанасці, што па прачытанні яго застаецца адчуванне нейкай недагаворанасці. Аднак у цэлым дэбют В. Коўтун у новым для яе жанры можна лічыць удалым.

(Заканчэнне на стар. 6—7).

мі тут падаюцца цытаты з К. Крапівы пра «шанаванне агульнанароднага моўнага скарбу», калі А. І. Жураўскі гэтак падтрымлівае рускія запазычанні, што ўзнікаюць «пад уздзеяннем рэальнай моўнай сітуацыі» (якая па-іншаму называецца звужэннем сферы ўжывання беларускае мовы). Незразумела, чаму так не падабаецца аўтару ўзбагачэнне мовы за кошт уласных дыялектных сродкаў і чаму ён палохае нас «эмігранцкімі» словамі «згадаць», «згадка». Нібы прывіды, устаюць страшныя часіны, калі словы набывалі палітычны характар, маглі быць «варожымі».

На самай справе пранікненне ў беларускую мову русізмаў — не вынік білінгвізму, а выдаткі аднамоўя і дрэннай моўнай культуры.

Чаму таварыш Жураўскі навязвае менавіта свае густы, вызначае, «як трэба» гаварыць? Тое, што ўзніклі формы «дзвярыма», «грашыма» — не дзіва, я думаю, для члена-карэспандэнта АН БССР не сакрэт агульны для ўсіх моў закон аналогіі. Тут нават можна вызначыць пэўную заканамернасць, звязаную з зацвярдзелымі зычнымі і з множным лікам.

Дарэчы, і ў рускай мове ёсць выпадак, калі дамінуе канчатак парнага ліку (ветры — ветра, годы — года). У рускай мове ў родным склоне адзіночнага ліку больш прадуктыўны канчатак — а. А вучонага абурае, чаму ў нас адваротная тэндэнцыя (арыгіналу, варыянту, народу). Словазлучэнне «гарадскі пасёлак» падобнае да беларускага, але менавіта падабенства і з'яўляецца траянскім канём. «У перакладных слоўніках, — сцвярджае А. І. Жураўскі, — даецца пераклад слова з адной мовы на іншую». Добра, калі пераклад адпаведны. Але рускае «местечко» не ва ўсім адпавядае беларускаму «мястэчка», слоўнік гэтага не агаворвае.

Тое, што ў іншых мовах прыжыліся дзеепрыметнікі, яшчэ не закон для беларусаў. Відаць, не столькі па прычыне «слабога знаёмства з працэсам развіцця літаратурных моў» ад дзеепрыметнікаў адмовіліся людзі, чуйныя да роднага слова, — такія, як М. Гарэцкі, К. Чорны. Магчыма, інтуітыўна яны зразумелі, што для беларускай мовы гэтыя формы не ўласцівыя.

Прыводзячы нараканні на разнабой у словазмяненні, на мноства варыянтаў таго ці іншага слова, А. І. Жураўскі ўпарта на заўважае, што беларуская літаратурная мова яшчэ маладая і знаходзіцца на шляху станаўлення, што пэўная варыянтнасць існуе і ў рускай мове. А барацьба М. Горкага з мясцовымі словамі ў літаратуры не магла без шкоды для беларускага слова пераносіцца на нашую глебу.

І сёння, калі беларуская мова будзе не папялушкаю, якую трымаюць для экзотыкі, калі яна загучыць у ВНУ, з высокіх трыбун, калі на ёй масавымі тыражамі выйдзе замежная класіка, тады наша мова і надалей будзе выпрацоўваць уласцівыя толькі ёй сродкі.

Кожнаму студэнту філфака вядома, што мова — адзіны арганізм, тут усе сістэмы і падсістэмы звязаны. Яшчэ мову можна параўнаць з калейдаскопам, дзе выпадзенне аднаго шкельца змяняе ўвесь малюнак.

А. І. Жураўскі піша: «Зняважа да ўліку гістарычных тэндэнцый развіцця грамадскага ладу беларускай мовы давала прастор для праяўлення суб'ектыўных густаў і меркаванняў, часта насуперак рэкамендацыям спецыялістаў-моваведаў».

А мне хочацца, каб не было гэтага суб'ектывізму і з боку моваведаў.

**Ю. ПАЦЮТА,**
**студэнт II курса універсітэта.**
г. Гродна.

рымліваецца, у нечым апраўдаў сябе. Ад такога «прасвятлення» вее звычайным эгаізмам, а не ўзвышэннем чалавечай душы.

У МІНУЛЫМ годзе беларускамоўныя часопісы надрукавалі чатырнаццаць аповесцей. Аднак, калі не выдаваць авансаў за маладосць аўтараў, нераспрацаванасць тэмы або актуальнасць узнятых праблем, аповесць у цэлым, як і раман, пакідае досыць сціплае ўражанне. Сапраўды, яркая з'ява тут адна — твор В. Быкава. Бадай, можна назваць яшчэ «Сола для віяланчэлі» В. Гігевіча («Полымя», № 1), «Дзень, калі ўпала страла» У. Арлова, «А маці не спіць» С. Грахоўскага. Праўда, з аўтарам апошняй аповесці хочацца не пагадзіцца. Ці толькі Алены Кастрыцкай віна ў тым, што сын вырас прагматыкам і эгаістам, ацураўся ўсяго роднага: вёскі, мовы, бацькавага імя, а ўрэшце і старой маці. Нашы спрацаваныя гаротніцы, якіх нехта з крытыкаў назваў апошнім высокамаральным чалавечым пакаленнем, вынеслі на сабе калектывізацыю і першыя пяцігодкі, вайну і пасляваенную нішчымніцу... Усё змаглі. Не змаглі толькі затрымаць уласных дзяцей на роднай зямельцы, навучыць іх любіць яе так, як любілі самі. Не, каб залежала гэта толькі ад нашых мацярок і бацькоў — і навучылі б, і затрымалі б...

Сярод твораў вылучаецца таксама аповесць-эсэ В. Карамазава «Глядзіце ў вочы лемура» («Полымя», № 5). Нашы пісьменнікі досыць часта кіруюцца ў далёкія падарожжы, але нячаста могуць расказаць пра заморскія краіны жыва, зацікаўлена, нязмушана, як гэта зрабіў В. Карамазаў.

Жанру малой прозы, здаецца, і авансы не надта за што ёсць выдаваць. Пераважная большасць апавяданняў года пра сучаснасць, ды сённяшнія праблемы свету бышцам абмінаюцца аўтарамі. Чарнобыль, Афганістан болем адгукнуліся толькі ў творах Янкі Брыля («На сцежцы—дзеці» — «Полымя», № 1), І. Пташнікава («Львы» — «ЛіМ», 18.IX), Л. Гаўрылкіна («Ціхоня»—«ЛіМ», 4.XII). Наша апавяданне рэдка выходзіць на значныя сацыяльныя тэмы, не надта імкнецца па-сапраўднаму заглыбіцца ў жыццёвыя з'явы і канфлікты. А тое, што і малому жанру па сіле сказаць сваё слова пра самыя складаныя перыяды ў гісторыі народа, засведчыла «Маленькая балерына» У. Караткевіча.

Ці лягчэй сёння працаваць пісьменніку? Калі знікла забарона на тэмы, калі можна называць многія рэчы сваімі імёнамі, калі перасталі праўду падзяляць на выгадную і нявыгадную. Разумею, у дачыненні да нацыянальнага літаратурнага працэсу пакуль зарана ўжываць завершаную форму дзеяслова. І ўсё ж. Дэмакратызацыя свядомасці грамадства відавочная. Гэта ўжо само па сабе з'яўляецца гарантыяй, што пісьменніцкія трывога, боль, яго нязгода з нейкімі тэндэнцыямі сучаснага жыцця не будуць на дзесяцігоддзі замураваны ў сталы і шафы рэдакцый.

Аднак гарантаванае апошнімі падзеямі ў краіне права гаварыць праўду, не абмінаць негатыўныя з'явы рэчаіснасці, ставіць перад пісьменнікамі няпростыя праблемы. Чытач хутка настроіўся на новы ўзровень праўды. Сённяшні час — час па-грамадзянску мужных і смелых твораў. Аднак такія творы нялёгка пішуцца. Практыка ранейшых гадоў, якія выстройваліся ў дзесяцігоддзі, менш за ўсё вучыла смеласці, прынцыповасці, незалежнасці. Таму для многіх сёння пісаць так, як патрабуе час, — значыць перадольваць у нечым сябе ранейшага. У сувязі з гэтым, думаецца, наіўна чакаць ад літаратуры хуткага і рашучага абнаўлення. Што і засведчыў мінулы 1987 год, багаты на новыя раманы, аповесці, апавяданні і бедны на сапраўдныя мастацкія адкрыцці.

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР



**СТРЫГАЛЁЎ Міхась Лаўрэнцьевіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Недайка Буда-Кашалёўскага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1961) і Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага (1969).**

**Літаратурную працу пачаў у 1960 годзе.**

**Аўтар кніг паэзіі «Хмель» (на рускай мове, Перм, 1966), «Белая Русь» (1967), «Колер часу» (на рускай мове, Перм, 1971), «Ростань» (1974), «Чырвоныя казармы» (1978), «Кола фартуны» (1981).**

**ЧАБАН Тамара Канстанцінаўна. Крытык, літаратуразнавец. Нарадзілася ў 1952 годзе ў вёсцы Чабаны Глыбоцкага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1974). Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.**

**Кандыдат філалагічных навук.**

**Літаратурную працу пачала ў 1976 годзе.**

**Аўтар кніг «Крылы рамантыкі» (1982), «Сучасная паэзія і фальклор» (1988), шэрагу публікацый у калектыўных зборніках і перыядычным друку.**

**ЧЫГРЫН Іван Пятровіч. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1955). Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.**

**Кандыдат філалагічных навук.**

**Літаратурную працу пачаў у 1955 годзе.**

**Аўтар манаграфій «Станаўленне беларускай прозы і фальклор. Дакастрычніцкі перыяд» (1971), «Проза «Маладняка» (1985), шэрагу публікацый у калектыўных зборніках і перыядычным друку.**

**ШРУБ Павел Міхайлавіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Хільчыцы Жыткавіцкага раёна. Скончыў Ленінградскі дзяржаўны універсітэт (1977) і Мінскую вышэйшую школу Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1987). Выкладчык-метадыст Мінскай спецыяльнай сярэдняй школы міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў ССР.**

**Член КПСС.**

**Літаратурную працу пачаў у 1978 годзе.**

**Аўтар кнігі паэзіі «Лабараторыя» (1987).**

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# АПАВЯДАННЕ Ў «БЕЛАРУСІ»

**На пашыраным пасяджэнні секцыі прозы Саюза пісьменнікаў БССР абмеркавана проза на старонках часопіса «Беларусь». Аналізаваліся творы апошняга часу, у асноўным публікацыі леташняга года.**

**На думку Л. ДАЙНЕКІ, часопіс імкнецца даць шырокую панараму літаратурнага жыцця рэспублікі, аб чым сведчаць не толькі празаічныя і паэтычныя творы, але і матэрыялы літаратурна-крытычнага плана. Уражанне ж ад празаічных твораў неаднолькавае. Апавяданню М. Капыловіча «Сустрэча на шляху», напрыклад, бракуе жыццёвай праўдзівасці. Не ўсё псіхалагічна матывавана і ў апавяданні У. Шахаўца «Юбілей», хоць тэма і цікавая. Л. Дайнека — яго затым падтрымалі іншыя прамоўцы — крытычна выказаўся аб аповесці Ю. Іванова і І. Майданава «Аперацыя «Крот», якой часопіс шчодра прадаставіў некалькі нумароў.**

**У апавяданні У. Сцяпана «Вонкавае святло» В. ГІГЕВІЧ убачыў «зробленасць», гарадское жыццё ў творы паўстае нейкім халодным, эмацыянальна-адчужаным. Прамоўца падзяліўся думкамі і пра іншыя творы, сярод якіх «Хроніка Лявона Баршчэўскага» У. Арлова, і апавяданне «Не плач, маці» В. Санько. В. Гігевіч, а таксама іншыя прамоўцы, адзначылі выпадковасць з'яўлення апошняга твора ў часопісе, яго мастацкую слабасць.**

**Гаворачы пра апавяданні А. Глобуса і І. Клімянкова, Г. ДАЛІДОВІЧ выказаў занепакоенасць тым, што маладой прозе, наогул, не хапае эмацыянальнай шчодрасці, пачуццёвасці. Прысутнічае ў ёй прафесіяналізм, але няма сУпераЖывання чалавеку, дакладнага апісання чалавечых характараў, над усім пераважае нейкі тэлеграфны стыль.**

**В. СУПРУНЧУК пажадаў часопісу шырэй друкаваць прозу, гаварыў пра навелы А. Васілевіч «Рысь» і «Дзедаў партрэт», высока ацаніў цыкл Ф. Янкоўскага «Зубы баляць».**

**П. МІСЬКО заўважыў, што апавяданне У. Крупіна «І яна адмовіла яму» не вызначаецца мастацкімі вартасцямі, і таму наўрад ці была патрэба перакладаць яго. Наогул, працягваў прамоўца, у прозе на старонках «Беларусі» шмат надуманасці, назіраецца адарванасць ад жыцця.**

**Старшыня бюро секцыі прозы В. АДАМЧЫК засцярог крытыкаў ад таго, каб скіроўваць маладых на традыцыйную дарогу. Ён нагадаў словы А. Блока, што для маладых пачатак павінен быць не традыцыйным. Гаворачы пра апавяданне П. Ламана «Калодзеж», прамоўца заўважыў, што аўтар тут цалкам ідзе ад У. Караткевіча. З'явілася ўжо цэлая плеяда пераймальнікаў, якія не могуць ад яго адысці. Важна ж, каб гістарычная тэма ў нашай літаратуры была не проста прыгожай легендай, а каб вяла да псіхалагічна-глыбокага асэнсавання гістарычнага матэрыялу. Гаварыў В. Адамчык і пра апавяданне А. Асташонка «На сцяжыне жыцця».**

**Апавяданне У. Арлова «Хроніка Лявона Баршчэўскага» нельга аднесці да ўдач пісьменніка, сказаў В. ХОМЧАНКА. Пераважае кніжнасць, літаратуршчына, няма ні адпаведнага развіцця сюжэта, ні сваёй мовы. Густа, па-майстэрску напісана апавяданне Б. Сачанкі «Карчэўнік», зазначыў І. ШАЛЬМАНАЎ. Часопіс павінен быць бліжэй да сённяшняга дня, заўважыў В. МЫСЛІВЕЦ. Пра неабходнасць большай увагі да роднай мовы з боку рэдакцыі гаварыў М. КАПЫЛОВІЧ. Л. АРАБЕЙ адзначыла, што неабходна паважаць волю аўтара, захоўваць яго стыль, а не «вытраўляць» кожнае жывое слова, як гэта нярэдка здараецца. Калі ж твор слабы, яго неабходна вяртаць, а не займацца перапісваннем.**

**На пасяджэнні выступілі таксама рэдактар аддзела літаратуры часопіса «Беларусь» Х. ЛЯЛЬКО і намеснік галоўнага рэдактара Т. БОНДАР.**

**НАШ КАР.**

# ПАТРЭБНА КАНФЕРЭНЦЫЯ

**Разнабой у напісанні прозвішчаў іншамоўнага паходжання і ўласных назваў назіраецца і на ўзроўні аднаго перакладу і на ўзроўні розных выданняў,— гаварыў ва ўступным слове на пасяджэнні секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей СП БССР, прысвечаным гэтай праблеме, старшыня бюро секцыі В. РАГОЙША. Прамоўца адзначыў таксама непаслядоўнасць перадачы беларускіх прозвішчаў і ўласных назваў у перакладах на рускую мову і мовы іншых народаў свету, падкрэсліў, што гучанне прозвішчаў у нейкай ступені адлюстроўвае і нацыянальную своеасаблівасць мастацкага твора. Сёння гэтае пытанне вельмі важнае. Невыпадкова на пасяджэнне секцыі запрасілі вядомых мовазнаўцаў, супрацоўнікаў АН БССР, інстытута замежных моў, педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.**

**Наспеў час правесці нараду-канферэнцыю, у якой прынялі б удзел усе асобы і арганізацыі, кампетэнтныя ў гэтым пытанні, — гаварыў П. САДОЎСКІ. Ён адзначыў, што ў нашых слоўніках няма паслядоўнасці і адзінага падыходу да перадачы ўласных назваў і слоў іншамоўнага паходжання. Прамоўца мяркуе, што замежныя назвы павінны гучаць у беларускай мове так, каб іх маглі пазнаць носьбіты мовы арыгінала. Мовазнаўца прапанаваў падумаць увогуле пра рэформу беларускага правапісу, бо час для такой рэформы даўно наспеў.**

**Нестабільнасць перадачы іншаземных уласных прозвішчаў на беларускай мове адзначыў і доктар філалагічных навук Г. ЦЫХУН. У многім гэтая праблема тлумачыцца фанетычным прынцыпам, якім карыстаецца наша мова, сказаў вучоны. Я думаю, што меў рацыю Б. Тарашкевіч, які лічыў, што ў мове павінен захавацца пласт слоў іншаземнага паходжання, якія не падпарадкоўваюцца законам беларускай мовы. Дарэчы, гэтая тэндэнцыя сёння з'яўляецца міжнароднай, падкрэсліў Г. Цыхун, і падтрымаў прапанову П. Садоўскага аб правядзенні рэспубліканскай канферэнцыі па гэтым пытанні.**

**На думку кандыдата філалагічных навук І. ЛУЧЫЦ-ФЕДАРЦА, замежныя прозвішчы і назвы ўсё ж варта набліжаць да беларускага гучання. З гэтай мэтай трэба распрацаваць пэўныя прынцыпы ў адносінах да кожнай мовы, з якой робяцца пераклады. Неабходнасць унармавання прынцыпаў перадачы іншамоўных геаграфічных назваў і прозвішчаў на пісьме падкрэсліў у сваім выступленні і кандыдат філалагічных навук У. СВЯЖЫНСКІ. Ён адзначыў, што гэта асабліва важна ў сувязі з рашэннем выдаць серыю «Скарбы сусветнай літаратуры».**

**Выкладчык педінстытута імя А. М. Горкага В. ВЯЧОРКА гаварыў аб неабходнасці падрыхтоўкі мовазнаўчай канферэнцыі. Паколькі рэформа 1933 года, як прызнаюць многія сучасныя навукоўцы, была валюнтарысцкай, трэба ставіць пытанне аб крытычным пераглядзе гэтай рэформы, адзначыў малады мовазнаўца. Ёсць праблема і з перадачай беларускіх прозвішчаў і геаграфічных назваў на замежныя мовы. На неабходнасць перакладаць непасрэдна з мовы арыгінала, каб пазбегнуць шматлікіх памылак, звярнуў увагу ў сваім выступленні У. КАЗБЯРУК, які падтрымаў прапанову мовазнаўцаў аб канферэнцыі. А. ЯСКЕВІЧ заўважыў, што падрыхтоўку такой канферэнцыі неабходна распачаць з вызначэння кола праблем, якія там павінны быць вырашаны.**

**У гаворцы прынялі ўдзел таксама перакладчыкі Л. МАРЦІНКЕВІЧ, М. МІНЦ, І. ЧАРОТА.**

**НАШ КАР.**

## ПАЭЗІЯ

### Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА



### *Якушоўка*

Якушоўка — супольнай сям'і нашай хата.
Печы муроўка,
ветравы ўсхліпы.
У Раманцах неба лягло вінавата
на братоў Каліноўскіх
несмяротныя ліпы.

Хочаш жыць шэсцьдзесят год —
пасадзіш таполю.
Два стагоддзі жыць хочаш —
пасадзі сабе ліпу.
З раскошай быльніку і куколю
ад беспрасвецця да куракліку!

Валяюцца тут чарапкі таго кубка,
з якога выпіты сумесны наш боль.
Як прынявольнага часу зарубка,
смецце грабецца курамі наўкол.

Пад ліпамі —
статкам здратаваны выган...
Ракі Калінкі, папростаны выгін...
Зажураны вочы нябеснага схілу
над зглішчам супольнай нашай магілы.

Хусцяю хмарак прыкінута проста
аснова хаты, шкілет падлогі.
Маленькай ткацкай фабрыкі лёхі
лепш прыхаваны кустом дзікаросту.

Прыціснута сном наша доля, заклята...
Агонь нашу долю тут і насціг.
Зрабілі раскопкі,
каб вырасла хата.
Ды хаты не могуць, як дрэвы, расці.

Раскошкалі куры нат дзікія слёзкі.
Некалькі шкельцаў на памяць бяру.
Стапталі магілы бацькоў Каліноўскіх.
Над сына магілкай маўчыць Беларусь.

Прад помнікам сціплым у Свіслачы-
месце
братняе мовы пануе нашэсце.
Сляпучаю мовай «Мужыцкае праўды»
мыляецца нават касец і араты.

Каля калыскі шчаслівыя маткі
мовы цураюцца — і анігадкі.
На братняй гавораць прачулыя словы
да беларусікаў белагаловых.

Хто ж уратуе маленькія душы?
Выпалаць, бы пустазелле з гарода,
з думак і сэрцаў мову народа.
Самі ў сабе ўсё жывое заглушым!

Як жа так можна плакаць балесна!
Загаласіла!
Ды што ж я чаўплю!
Як без няволі ды лезці ў пятлю?
Верай душы Каліноўскі ўваскрэсне!

Чысты наш люд хіба ў чым вінаваты?
Верай уздымем дзяцей нашых лёс.
Долю, як скабы знішчанай хаты,
мы дабудуем да ясных нябёс.

Высака ўздымем сямейкай юнацкай.
Душы ажывяцца сілай надзей.
Будзе далёка свяціцца, як цацка.
З дальніх дарог панаедзе гасцей.

Бо Каліноўскі з любоўю да людства
выйшаў на шэры вясковы папар
супраць слабых недаверкаў і хлюстаў
словы і косы вайстрыць, нібы жар.

Хопіць у хлопцаў жыццёвасці, веры.
Не дачакаюцца трупаў крукі.
Скосім адступніцтва мы — касінеры,
сейбіты долі сваёй, дзецюкі.

### *Першае падарожжа*

Рэкі нясуць на сумежжа адлігу.
Душы зняверваюць грошы, аж страх,
Едзе Скарына Францішак у Рыгу
з бацькам у першы гандлёвы свой шлях.

Знік родны бераг і камень Барысаў.
Месяц тапырыць па-змоўніцку рог.
Ціхай Радзімы лясныя абрысы
сына жагнаюць на зменлівы торг.

Полацк зажураны ў засмужы ранка
доўга на воку ўспамінам пячэ.
Коціць світанне Дзвіна-палачанка.
Даўгавы лёсам ісці ўжо шпарчэй.

...То ж чалавек прад кананнем гібее,
покуль не вып'е гаркоту да дна.
Рэчка ў канцы свайго шляху глыбее,
з морам спрачаецца ў вусці Дзвіна...

Залапатаў прамяніста пярынкамі
пеўнік на жэрдцы на вежы Пятра.
Зачараваў, пэўна, вочы Скарынавы
зваблівы бляск залатога пяра.

Горад — застаўка да будучай кнігі,—
звязаны дахі з дахоўкі кулём.
На масяндзовую вулачку Рыгі
ўедзе адзін толькі вершнік з кап'ём.

Але ці доўга надзівішся з крамы?
Дзень быў запоўнены працай суздром.

ПРОЗА

# НЕЗАКОНЧАНАЯ ГІСТОРЫЯ

Васіль Гігевіч

апавяданне



АПАВЯДАННЕ гэта мне доўгі час ніяк не ўдавалася завяршыць. Неаднойчы я перапісваў яго, стараючыся не схлусіць і між тым не згубіць той мілагучны звон, які павінен гучаць між слоў альбо — над словамі, не ведаю, дзе дакладна, але звон гэты павінен быць, калі — радасці, калі — смутку...

Але, прызнаюся, не гэта мяне бянтэжыла. Штосьці іншае мяне турбавала. Не само апавяданне, не... Гісторыя, з якой нядаўна сутыкнуўся, была не такой ужо і заблытанай, балазе падобных гісторый у апошні час, які прынята называць векам галоснасці, мы ўсе чулі і чыталі шмат, між тым я адчуваў, што ў сваёй гісторыі я чагосьці не разумею, не магу асэнсаваць да канца.

Нядаўна сябар мой, вярнуўшыся з камандзіроўкі, разгаварыўшыся, сказаў мне тое, што, мабыць, высвеціла, нарэшце, прычыну маіх сумненняў.

— Ты ведаеш, — сказаў ён, — самае балючае, што мы, шмат гаворачы пра дабрабыт народа, усё яшчэ не асмельваемся сказаць пра тое жахлівае, што ўсё больш і больш уваходзіць у наша жыццё і з чым мы моўчкі мірымся. Я табе прыклад прывяду. Паехалі мы выступаць у сельскагаспадарчы інстытут. Пра літаратуру, пра культуру сабраліся пагаварыць, паспрачацца. А там да нас, як кажуць, нуль увагі, з-пад палкі выкладчыкі дзесятак студэнтаў сагналі ў аўдыторыю. Там увогуле... Спачатку студэнтам канцэрты рашылі паказваць. Платныя. Сталічныя артысты прыязджалі да іх. Дык студэнты ўцякалі з тых канцэртаў. Тады бясплатныя канцэрты пачалі паказваць — таксама ўцякаюць. Нічым не цікавяцца. І гэта ж — моладзь. Што з людзьмі творыцца?..

Тады ўжо, нагадаўшы сабе і сябру многія іншыя падобныя гісторыі і сітуацыі, я падумаў: у сучасным народным жыцці мы штосьці хутка навечна губляем. І не толькі мову, не толькі правераныя вякамі традыцыі, але і яшчэ нешта надта важнае, мо нават намі не ўсвядомленае да канца, без чаго народ не можа быць народам.

Пасля гэтага мне стала не тое што лягчэй, а проста я зразумеў, што ў апавяданні трэба рашуча адкінуць убок звыклыя апрабаваныя дагэтуль літаратурныя хады і расказаць пра тое сённяшняе, што бачыў і чуў сам,— без прысуду і апраўдання, бо, мабыць, прысуд, як і апраўданне, мне рабіць яшчэ рана.

Пачалося ўсё восенню, той парою, калі ў горадзе на бліскучы мокры асфальт з раніцы да вечара пачынаюць сеяцца дажджы, бывае — дробныя, макавыя, а бывае — буйныя, з парывістым ветрам. У кватэрах звычайна ўсё яшчэ не ўключаюць батарэй, усюды, куды ні паткніся, сыра, холадна, тады чамусьці з прыкрасцю думаецца, што ўжо на ўсім свеце паспелі панаставіць высачэнных шэрых будынін, накрылі зямлю тоўстым слоем асфальту, і цяпер нідзе не знойдзеш чыстага лапіку зямлі, а тым болей—лесу ці таго ж змакрэлага зялёнага лугу, на якім кружыць, пятляе рачулка, прыхаваная кустамі алешніку, а паабапал яе пад нізкім небам шарэюць невысокія аселыя стажкі сена.

...Бо там, у лесе ці на лузе, гэтыя асеннія дажджы ўспрымаюцца інача, не так, як у вялізным горадзе, калі па вуліцы ідзеш з аглядкаю, каб не абпырскала машына, ды і ногі хутка прамакаюць, бо на іх не боты, якія абуваеш у вёсцы ў такую пару, а лёгкія модныя чаравікі.

Прыхапіўшы малую з каляскаю, мы выбраліся з горада, каб жыць у недабудаванай хаціне, у якой яшчэ нічога людскага і не было. Затое там мелася грубка. Тая самая грубка, якая грэла, сушыла, напамінала пра вясковае ціхае маленства. І яшчэ напамінала пра згублены ўтулак, які апантана шукаеш у сталых гадах, матляючыся па свеце і, часцей за ўсё, знаходзячы яго толькі ў марах ды снах.

Ды і то — не заўсёды...

Не так ужо і далёка ад нашай хаціны за невысокім палявым пагоркам выторкваліся тэлевізійныя антэны і бялелі шыферныя стрэхі. На другі ж вечар я выправіўся ў той бок, каб знайсці малака малой.

Абышоў амаль што ўсю вёсачку, пачынаючы з тых, хат, што стаялі побач з фермаю, ля якой высілася высокая гурба перагною, і далей, хата за хатаю, я заходзіў у двары і грукаў у дзверы, калі яны былі не замкнёныя, а то, зірнуўшы на замок, шыбаваў на вуліцу.

Вёсачка вымірала. Гэта было відаць і па адзінокіх старых, якія дажывалі век, і па вялікіх прагалах між хат, якія ў большасці стаялі ў адзін рад.

Вярсты за тры ад вёскі хадзілі хуткія электрычкі і яны, канечне, спраўна паспявалі вывозіць падлеткаў у вялікія займальныя і салодкія гарады.

Малака не было, хоць трэсні. Многія пазводзілі кароў, а тыя, хто меў, здавалі яго ў саўгас за камбікармы і сена.

Так дабраўся да таго дома, дзе жыла Казя. Яе вялікі дабротны дом стаяў на высокім падмурку. Гэткаю ж вялікаю была і веранда.

У верандзе ў вочы адразу ж кінуліся вёдры, каструлі, адзенне, што грудам ляжала ля цёмнага шкапчыка, мяшкі з нечым, боты гумовыя, слончык пасярод веранды, на якім блішчэлі два трохлітровыя слоікі,—усё гэта было як знарок выстаўлена. Падлога была даўно не фарбаваная і не меценая.

Казя цадзіла малако. Было ёй на выгляд год пяцьдзесят. Сярэдняга росту, пацямнелая ў твары ці то ад загару, ці то ад цяжкай работы, у гумовіках, у цёмным картовым пінжаку і гэткай жа цёмнай, як пінжак, спадніцы Казя змахвала нечым на мужчыну. І не паўнатою ў целе, а рэзкімі парывістымі рухамі. І яшчэ той сухаватасцю ў натрэніраваным работаю жылістым целе, якая часта відаць у былых спартсменак-лыжніц, якія за гады трэніровак высушваюць і цела, і твар, сваёй дзелавіта-мужчынскай хваткай яны, бывае, нагадваюць спраўны складны механізм ці аўтамат, што гадамі можа працаваць без збояў, у адпаведнасці з аднойчы зададзенай праграмай.

Гаварыла Казя голасна, ледзьве не крычала, і гэта напачатку непрыемна разанула слых.

— Дык вы будзеце кожны дзень малако браць, ці толькі зрэдку? Мне цераз дзень нявыгадна, мне лацвей у саўгас здаваць, — гэтак яна наіўна набівала цану.

Яна ўсё глядзела ў вочы. Я таксама глядзеў у яе пацямнелыя без жывога бляску вочы, — думалася, што жывецца ёй няўтульна і сумна.

Бываюць жанчыны, у якіх да рук ніяк не вяжацца жаночая работа; ні да мыцця, ні да шыцця, ні да прыборкі ў іх душа не ляжыць, таму работу гэту яны звычайна робяць з нялюбасцю, похапкам, абы-як; з гадамі такія жанчыны становяцца грубаватымі і рэзкаватымі, куды б іх жыццё ні закідала, радасці ў ім яны знаходзяць мала і часта, як збавенне, яны спрабуюць ухапіцца за мужчынскія звычкі і замашкі. У гарадах з некаторых выходзяць добрыя талковыя адміністратары, начальніцы аддзелаў.

Відаць, такою была і Казя.

Праз дзень я зноў быў у яе доме на высокім падмурку. Цяпер Казя гаварыла трохі цішэй, але была ўсё такой жа, як і дагэтуль, рэзкай. Як часта бывае ў адзінокіх людзей, яна, не прыкмячаючы таго, пачала выкладваць пра сваё жыццё-быццё.

— Адна жыву, без мужыка. Ён кінуў нас, цяпер у горадзе з другой жыве. Самой даводзіцца ўсё рабіць: і касіць, і араць, і дровы сячы... Хлопцы два ёсцека. Меншы цяпер са мною жыве. Тут жыве, а на работу ў горад на электрычцы ездзе. Цяпер во яго ад завода паслалі ў калхоз бульбу капаць. Свая някопаная стаіць, а ён чужую капаць будзе. А большы мой у цюрме сядзіць. Два гады далі. За дачы. На вашых дачах інструменты краў: малаткі, нажоўкі — нічога людскага. Ну, дык і пасадзілі. Скора ўжо вернецца. Ён, праўда, выпівае ў мяне...

Яна не апраўдвалася і не абвінавачвала — проста гаварыла. І было шкада яе, — нечым нагадвала тое мокрае вакзальнае кацяня, што ся-

# ЧАС СПАЗНАВАННЯ СЯБЕ



**Першыя вынікі тэатральнага эксперыменту аналізуе начальнік упраўлення тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры БССР У. П. РЫЛАТКА**

**— Уладзімір Пятровіч, больш за год тэатры Беларусі працуюць ва ўмовах эксперыменту. Ці можна ўжо назваць пэўныя вынікі?**

— Нязвыкла пачынаць гутарку пра тэатр з эканомікі, але што праўда, тое праўда: менавіта тэатральная эканоміка доўгія гады была самым «балючым» нашым месцам. Заўважу адразу, што ўсе тэатры, якія бяруць удзел у эксперыменце, павялічылі колькасць гледачоў на 140 тысяч. Навучыліся лепш сябе прапагандаваць, гандляваць білетамі і па-гаспадарску эксплуатаваць усё, што маюць у рэпертуары. Пакрысе, але расце заработная плата акцёраў, істотна павялічыліся прэміі. Ёсць, бадай, і больш важны вынік: стаўленне да тэатра шмат якіх дзяржаўных органаў істотна змянілася. Да прыкладу, мы прызвычаіліся ківаць на фінансавыя органы як на тормаз для развіцця мастацтва, і ў гэтым была свая логіка, але — учарашняга дня. Сёння за кошт буйных укладанняў (стварэння новых канцэртных арганізацый, філармоній, эстрадна-сімфанічнага аркестра, лялечнай трупы ў Віцебску і г. д.) глядацкая аўдыторыя павялічылася амаль на мільён чалавек. Упершыню за апошнія дзесяць гадоў выправілі сваё фінансавае становішча ДАВТ і ТЮГ; наогул усім тэатрам, якія на эксперыменце, павялічана дзяржаўная датацыя.

**— Дарэчы, чаму б не паведаміць праз друк яе памер?**

— Ніякіх таямніц для грамадскасці тут няма. Датацыя выдзяляецца тэатрам раз на год, і сума яе не мяняецца. Летась, напрыклад, яна была: у Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы — 279, у Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа — 242, у ТЮГу — 215, у Дзяржаўным тэатры лялек — 87 тысяч рублёў. Праўда, мушу ўдакладніць: шмат хто праблему фінансавання тэатральнага мастацтва разумее, так бы мовіць, «праз датацыю». Але ёсць тэатры, якія маглі б абысціся і без яе (сімвалічнай з'явою яна ўспрымаецца ў Тэатры імя Маякоўскага ў Маскве). Кожны буйны тэатр можа добра арганізаваць справу і пражыць без датацыі, але ж не будзем забываць, што сам тэатральны будынак утрымлівае дзяржава, што за яе кошт робіцца рамонт, набываецца абсталяванне і г. д., таму датацыя — толькі частка дзяржаўных выдаткаў на тэатр. І эксперымент не мае нічога агульнага з тым, каб перавесці тэатры на гаспадарчы разлік, бо мастацтва тэатра квітнее толькі там, дзе дзяржава ставіцца да яго ашчадна, шануе і падтрымлівае грашова.

**— А як жа быць студыям, тэатрам на гасразліку і самаакупным?**

— Эксперымент пераконвае: тэатры павінны быць **рознымі.** Творчы дух самадзейнікаў, аматараў мы будзем падтрымліваць і заахвочваць, дапамагаць з матэрыяльнай базай, што сёння і робіць, скажам, упраўленне культуры Мінскага гарвыканкома, пад эгідай якога нядаўна створана Эксперыментальнае тэатральнае аб'яднанне — ЭТА.

Прынцыповым трэба лічыць і рашэнне аб перадачы пад установы мастацтва, у тым ліку і тэатры, многіх памяшканняў з тых, якія рэстаўрыруюцца ў Верхнім горадзе. Студыі на гаспадарчым разліку працуюць у Мазыры (кіраўнік — М. Колас) і Слоніме (кіраўнік — М. Варвашэвіч), ствараюцца ў Гомелі. Хто ведае, можа, менавіта з іх практыкі ўзнікнуць новыя формы, нечаканыя знаходкі, пэўныя творчыя здабыткі, новыя тэатральныя ідэі. Але перш за ўсё нам неабходны людзі высокапрафесійныя. Утрымліваць непрафесіяналаў робіцца нявыгадным: непрафесійнасць — здзек з тэатральнай эканомікі.

На жаль, сама сфера кіравання ёю яшчэ пакутуе ад дылетанцтва, павярхоўнасці і звыклага адміністравання. Вось, напрыклад, нядаўна Віцебскі абласны Савет народных дэпутатаў прыняў пастанову, якой абавязаў Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа тэрмінова павялічыць аб'ём так званых платных паслуг насельніцтву — на 45 тысяч рублёў. З якой нагоды? На якой падставе? Марк Захараў, дарэчы, сцвярджае, што калектыў, які паважае сябе, не будзе даваць больш за 200 спектакляў на год. Эксперымент жа перш за ўсё стымулюе камерцыйную дзейнасць тэатра і, на жаль, гэта азначае —павелічэнне пракату спектакляў. Тэатры невыпадкова пашыраюць сваю гастрольную дзейнасць (купалаўцы летась паказалі 592 спектаклі, коласаўцы — 691, тюгаўцы — 505). Гэтая дзейнасць павінна праводзіцца з розумам. А калі розуму бракуе... Вось вам яшчэ ўзор адміністрацыйнай «руплівасці»: паводле плана, даведзенага райвыканкомам. Белдзяржфілармонія вымушана абслугоўваць жыхароў свайго раёна ва... Узбекістане, Таджыкістане, Сібіры. Інакш патрэбных грошай не заробіць. Калі ж меркаваць паводле фінансавых справаздач некаторых нашых абласных тэатраў (а тыя сведчаць, што аплачваць спектаклі там прылаўчыліся так званымі пералічэннямі), дык просіцца выснова: яны працуюць як лекцыйна-канцэртныя ўстановы. Некаторыя да 70 працэнтаў сваіх прыбыткаў «пералічаюць». Але ж звычка атрымліваць незаробленыя грошы разбэшчвае не толькі асобнага чалавека, але і вялікі калектыў таксама. Мастацкая частка такога калектыву ківае на сваіх упаўнаважаных па арганізацыі гледача і глыбока пераканана, што працуе бездакорна. А глядач усё адно ў тэатр не ідзе...

Сэнс жа эксперыменту якраз у тым, каб зарабляць болей, жыць лепей, але за кошт выканання сваёй сацыяльна-ідэалагічнай функцыі — стварэння высокапрафесійных спектакляў.

**— Менавіта для стварэння высокапрафесійных спектакляў былі значна пашыраны правы мастацкіх саветаў. Ці плённа гэта паўплывала на тэатральную справу?**

— Мы памятаем, напрыклад, як выпускаўся спектакль «Марутка» ў ТЮГу. Мастацкі савет яго не прыняў, больш таго, у ТЮГу абвастрыліся адносіны мастацкага савета і мастацкага кіраўніцтва. Тут мушу заўважыць, што сама назва — савет — тлумачыць, што ў тэатры ён мае голас дарадцы, і ягоныя рашэнні-парады мастацкае кіраўніцтва можа, скажам так, інтэрпрэтаваць. Кіраўнік тэатра, безумоўна, не можа не браць пад увагу думку мастацкага савета, але павінен быць чалавекам дзяржаўным і кіравацца надзённымі запатрабаваннямі свайго тэатра. Дырэктар ТЮГа вырашыў пракатваць спектакль, і ў ягоным рашэнні я не бачу нічога няправільнага ці крыўднага для мастацкага савета, бо гаворка ідзе пра надзвычай актуальны сцэнічны матэрыял. Да таго ж і грамадскасць (педагогі, літаратары, школьнікі) выказалася за тое, каб спектакль «Марутка» жыў, а меркаванні мастацкага савета пэўным чынам паўплывалі на працу акцёраў і рэжысёра. (Я, між іншым, перакананы: калі адносіны мастацкага савета і мастацкага кіраўніцтва набываюць пэўную канфліктнасць, спектакль будзе даведзены да ладу).

**— Ці не варта тут згадаць пра кампетэнтнасць — агульнага сходу трупы, мастацкага савета, мастацкага кіраўніцтва і, як той казаў, высветліць, «хто ў хаце гаспадар»...**

—Бывае, што і органы, кіруючыя тэатрамі, кідаюцца з аднаго боку ў другі: то перавага аддаецца мастацкаму савету, то — рэжысёру-лідэру, то — дырэктару... Безумоўна, за дырэктарам апошняе слова, але яго рашэнні павінны «сувымярацца» з аўтарытэтам мастацкага савета. Нельга таксама падмінаць ці падмяняць творчых кіраўнікоў, хоць менавіта іх пазіцыі цяпер найменш моцныя ў тэатрах. Думаю, што паводле вынікаў эксперыменту ў першую чаргу неабходна разгледзець статус мастацкага кіраўніка тэатра, ягоныя правы і абавязкі.

**— Крытык Б. Любімаў тэатральную сітуацыю апошніх гадоў вызначыў так: год 1986, «Даеш мастацкі савет і гасразлік!»; год 1987, «Даеш дыктатуру і датацыю!». Сапраўды, якім быць сучаснаму тэатру? Ці прапануе што-небудзь новае наша тэатральная практыка?**

— Напрыклад, Рускі тэатр БССР спрабуе выпрацаваць такую сістэму, якая б у дастатковай ступені абараняла правы акцёраў, разам з тым, давала б магчымасць больш лёгка і натуральна фарміраваць трупу. Рускі тэатр прапануе мець дзве часткі трупы — пераменную і пастаянную. Абедзве — на дагаворы. Пераменная тэрмінам на год, пастаянная — на пяць. У склад пераменнай увойдуць людзі, што яшчэ не праявілі сябе як мае быць, і навічкі. Пастаянную складуць акцёры пер-

## МУЗЫКА

# ...І СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

**З 16 па 22 красавіка ў Мінску адбудзецца І Рэспубліканскі конкурс вакалістаў імя Л. П. АЛЕКСАНДРОЎСКАЙ**

**Творчыя спаборніцтвы для вакалістаў у нашай рэспубліцы праводзяцца з 1941 года. Сярод лаўрэатаў васьмі мінулых конкурсаў вядомыя сёння беларускія спевакі Я. Пятроў, М. Маісеенка, М. Зданевіч, Л. Каспорская, Н. Казлова, І. Краснадубскі, В. Скарабагатаў і іншыя.**

**Сёлетняму конкурсу надазена імя выдатнай беларускай спявачкі народнай артысткі СССР Ларысы Пампееўны Александроўскай. Як вядома, менавіта яна была адной з тых, хто ў пачатку 30-х гадоў закладваў асновы прафесійнага опернага мастацтва Савецкай Беларусі. Зусім заканамерна, што конкурсу вакалістаў надалі слыннае імя Александроўскай.**

**У конкурсе ўдзельнічаюць 25 выканаўцаў з Мінска, Гродна і Гомеля. Сярод іх салісты оперы, Беларускай дзяржаўнай, Гомельскай і Гродзенскай абласных філармоній, артысты Акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р. Шырмы, студэнты Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, Мінскага музычнага вучылішча і інш. Складаная праграма конкурсу адпавядае ўзроўню ўсесаюзных спаборніцтваў вакалістаў. У трох турах удзельнікі павінны выканаць адзінаццаць твораў розных жанраў і стыляў. Амаль палову праграмы складаюць рамансы і арыі беларускіх кампазітараў. Абавязковае выкананне і беларускай народнай песні.**

**Журы, у якое ўваходзяць відныя беларускія артысты і педагогі, узначальвае народны артыст БССР прафесар А. Багатыроў.**

**Конкурс імя Л. П. Александроўскай будзе садзейнічаць папулярызацыі беларускай народнай песні і твораў беларускіх кампазітараў, выявіць новыя імёны маладых таленавітых выканаўцаў, якія затым будуць прадстаўляць нашу рэспубліку на міжрэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных конкурсах.**

**Такім чынам, заўтра ўвечары ў канцэртнай зале БДК адбудзецца ўрачыстае адкрыццё конкурсу. Тут пройдуць І і ІІ туры. 21 красавіка ў філармоніі — трэці конкурсны тур, а 22-га — заключны канцэрт пераможцаў.**

**Л. ІВАШКОЎ,**
**загадчык кафедры спеваў БДК.**

# ПЕРШЫ ФЕСТЫВАЛЬ У ПОЛАЦКУ

**З 17 па 27 красавіка ў Полацку пройдзе першы фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. Яго арганізатары — Міністэрства культуры БССР, Беларуская дзяржаўная філармонія і Полацкі архітэктурны запаведнік. З вялікай зацікаўленасцю да гэтага музычнага свята ставяцца Саюзканцэрт і Міністэрства культуры СССР.**

**Асноўныя канцэрты адбудуцца ў зале «Полацкі Сафійскі сабор». Адкрые фестываль Камерны хор Міністэрства культуры СССР пад кіраўніцтвам В. Палянскага. Выступленні гэтага цудоўнага калектыву падораць слухачам сустрэчу з рэдкімі ў выкананні творамі С. Рахманінава («Всенощное бдение»), Д. Бартнянскага (6 канцэртаў для хору). Ансамбль салістаў пад кіраўніцтвам Г. Раждзественскага і піяністка В. Постнікава — таксама ўдзельнікі фестывалю. У выкананні знакамітых музыкантаў будуць гучаць творы В. Моцарта, А. Шнітке... Музыка І.-С. Баха — у рэпертуары Мінскага камернага аркестра. Вытанчаныя старадаўнія партытуры ажывуць у канцэртах Камернага хору Эстонскай філармоніі, Ансамбля музыкантаў старога Таліна, іншых выканаўцаў, што прыедуць у Полацк.**

**НАШ КАР.**

# ДЛЯ МНОГІХ ХАРАВІКОЎ...

**«Хрэстаматыя па харавым дырыжыраванні», складзеная А. Журавым (Мінск, «Вышэйшая школа», 1987 г.), адкрывае новую серыю выдавецтва «Вышэйшая школа». Варты ўхвалы той факт, што серыя пачынаецца публікацыяй разнажанравых твораў беларускіх кампазітараў. Такіх матэрыялаў, якія даюць разгорнутае ўяўленне пра нацыянальную харавую музыку, у нас у рэспубліцы пакуль яшчэ мала. Пэўна, толькі «Харавая поліфанія» В. Роўды — выключэнне.**

**Складальнікам «Хрэстаматыі...» была праароблена вялікая праца па адборы матэрыялу. У яе ўвайшлі лепшыя ўзоры беларускай харавой літаратуры, прытым некаторыя з іх публікуюцца ўпершыню. Гэта добры падарунак нашым харавікам, які дазволіць узбагаціць, я думаю, не толькі педагагічны рэпертуар, але і рэпертуар шматлікіх харавых калектываў рэспублікі.**

**«Хрэстаматыя...» мае нямала вартасцей: яна змяшчае звесткі пра кампазітараў і, гэта вельмі важна,— слоўнік музычных тэрмінаў, якія найбольш ужываюцца ў харавой дырыжорскай практыцы. Гэтыя раздзелы значна аблягчаюць працэс вывучэння матэрыялу, робяць яго даходлівым як для будучых спецыялістаў, так і для шырокага кола музыкантаў, якія цікавяцца харавой музыкай.**

**«Хрэстаматыя па харавым дырыжыраванні» А. Журава — важны набытак у прапагандзе беларускага харавога мастацтва.**

**Андрэй МДЗІВАНІ,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.**

# «БІРШТАНАС-88»

**Паездкі беларускіх джазавых музыкантаў на фестывалі, што адбываюцца па-за межамі рэспублікі, — з'ява надзвычай рэдкая. Таму і вылучаецца як падзея адметная выступленне мінскага квінтэта пад кіраўніцтвам І. Сафонава на прэстыжным фестывалі літоўскага джазу ў Бірштанасе. Там адбылося 7 канцэртаў, дзе выступілі больш за дваццаць ансамбляў з Літвы, з братніх рэспублік краіны і з Польшчы (квартэт З. Намыслоўскага).**

**Фестываль «Бірштанас-88» вызначаўся высокім арганізацыйным і творчым узроўнем і прадставіў джазавую музыку самага шырокага дыяпазону — ад традыцыі (дыксіленд, бугі-вугі, блюз) да авангарду. Сярод гаспадароў — удзельнікаў фестывалю асабліва вызначыліся П. Вішняўскас, К. Лушас, ансамблі Г. Абаруса, У. Тарасава. Ім і былі ўручаны галоўныя прызы. Цікава выступіў дуэт авангарднай арыентацыі з Ленінграда — У. Волкаў (кантрабас) і В. Гайваронскі (труба); глыбінёй і майстэрствам вызначылася вядомае мінчанам трыо Д. Азарана, віртуознасцю выканання ўразіў вакальны квінтэт Рыжскага джазклуба пад кіраўніцтвам Э. Вера.**

**А нашы выканаўцы? Яны не згубіліся ў такой «салі́днай» кампаніі. Найбольшы поспех у слухачоў мела трохчасткавая сюіта на беларускія народныя тэмы У. Ткачэнкі і выкананая ім на гітары сола апрацоўка беларускай народнай песні «Гоман, гоман». Журы фестывалю на чале з вядомым музыкантам К. Арбелянам адзін з трох дыпломаў «За ўдалае выступленне на фестывалі» ўручыла музыкантам з Беларусі. Што ж, застаецца пажадаць аднаго: абы гэтак і далей!**

**І на заканчэнне — некалькі фактаў. Бірштанас, маленькі літоўскі гарадок, ужо ў пяты раз праводзіць фестываль усесаюзнага значэння. Зала, дзе каля 700 месц, на канцэртах была перапоўненая. Як і раней, фірма «Мелодия» плануе выдаць альбом, прысвечаны фестывалю. Аргкамітэт фестыва-**



Іграе Ігар Сафонаў.
Фота У. БАЗАНА.

# Ён жыў, каб ствараць...

**Нядаўна ў рэдакцыю завітаў член нашай рэдкалегіі, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР У. Стальмашонак. Ён прынёс пачак фотаздымкаў і некалькі старонак надрукавага на машынцы тэксту.**

**— У дні, калі ў Маскве адбываўся Усесаюзны з'езд мастакоў, — сказаў Уладзімір Іванавіч, — мне на вочы трапіла нататка ў газеце «Московский художник», якая расказвала пра вечар памяці і выстаўку твораў мастака Рамана Семашкевіча ў Малой зале ЦДМ на Крымскім валу. Амаль пяцьдзесят гадоў яго імя было ў небыцці: у 1937 годзе ён быў незаконна рэпрэсіраваны... Даведаўся я і пра тое, што ў Маскве жыве ўдава мастака — Надзея Міронаўна Васільева. Наша дэлегацыя вырашыла паехаць да яе, каб распытаць пра жыццё жывапісца Семашкевіча, пазнаёміцца з яго творамі, якія ўдалося захаваць...**

**Калі пагледзелі карціны і малюнкі майстра, прапанавалі Надзеі Міронаўне зрабіць персанальную выстаўку мастака-беларуса ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Цяпер дакладна магу сказаць, што пытанне гэта вырашана: восенню шматлікія прыхільнікі жывапісу і графікі змогуць пазнаёміцца з творчай спадчынай таленавітага майстра.**

**Калі мы развітваліся з Надзеяй Міронаўнай, я папрасіў яе напісаць спецыяльна для «ЛіМа» колькі старонак успамінаў пра свайго мужа. Так нарадзіўся гэты матэрыял, што апавядае пра лёс чалавека і мастака, які жыў, каб ствараць. Асабіста я адкрыў для сябе новае імя ў мастацтве. Спадзяюся, што слова пра Рамана Семашкевіча зацікавіць многіх чытачоў нашай газеты.**



Мазыр. 1932 г.



Прачкі на Прыпяці. (Мазыр). 1932 г.

Мой муж — мастак Раман Мацвеевіч Семашкевіч — нарадзіўся ў 1900 годзе ў мястэчку Лебедзева, што знаходзілася ў Заходняй Беларусі, у сялянскай сям'і, у якой выхоўвалася 16 дзяцей. Бацька яго быў садоўнікам у памешчыка. Працаваць, зразумела, даводзілася ўсім ад раніцы да ночы...

Багатая прырода роднага краю абудзіла ў Рамане любоў да прыгажосці, жаданне расказаць пра яе, уменне бачыць і выявіць характво. Дома хоўную вольную хвіліну яго бачылі за маляваннем. Фарбаў тады ў яго не было, і ён маляваў сокам, выціснутым з кветак. Гэта любоў да малявання перарасла ў страсць, якую немагчыма было стрымаць ніякай сілай. Ён пакідае бацькоўскі дом і выпраўляецца ў Вільню. Там яму ўдалося закончыць гімназію і браць першыя ўрокі жывапісу ў мастацкай студыі Браніслава Тарашкевіча. Адначасова ён працаваў прадаўцом газет. У Вільні Раман прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі камсамола і тым самым звярнуў на сябе ўвагу улад.

Знаходзіцца ў Вільні далей яму было небяспечна, і ў 1924 годзе Семашкевіч едзе з панскай Польшчы ў Савецкі Саюз...

Раман марыў працягваць мастацкую адукацыю, і яго накіравалі ў вядомы ў краіне Віцебскі мастацкі тэхнікум. Закончыў ён яго па класе скульптуры ў 1927 годзе. Здольнага юнака рэкамендавалі на факультэт жывапісу ў Маскоўскі ВХУТЕИН, дзе ён вучыўся ў С. Герасімава, А. Дрэвіна, Д. Кардоўскага. Вучыўся Раман упарта, хоць даводзілася цяжка. Дапамогі ніякай ніадкуль яму не было: бацькоўскі дом — за кардонам. У дзень з'ядаў булачку, выпіваў флакончык рыбінага тлушчу, — вось і ўсё, што ён мог сабе дазволіць на 8 рублёў стыпендыі. Але яго гэта не засмучала, бо жыў ён адной стыхіяй — мастацтвам.

У Маскве ў той час працаваў Сяргей Мацвеевіч Ромаў (1883—1939), мастацкі крытык, журналіст, перакладчык, які незадоўга да гэтага прыехаў з Парыжа, дзе ён пражыў не адно дзесяцігоддзе. Тонкі знаўца мастацтва, Ромаў быў асабіста знаёмы з Пікасо, Мацісам, Маркс і многімі іншымі знакамітасцямі. Неяк ён заўважыў работы Семашкевіча на выстаўцы выпускнікоў інстытута і вельмі падтрымаў Рамана. Сяргей Мацвеевіч пажадаў, каб Семашкевіч напісаў мой партрэт. Жыў Ромаў на Вялікай Палянцы ў невялікім утульным светлым дамку, якіх тады было мноства ў Замаскварэччы. Я выправілася туды, каб пазіраваць Семашкевічу. Мастак сваёй знешнасцю хутчэй нагадваў рабочага. Дакладней, так ён апранаўся. Быў атлетычнага складу, невысокага росту з русявымі, крыху кучаравымі валасамі, крутымі надброўнымі дугамі, адкрытым ілбом. Рукі ў яго былі спрытныя, гнуткія, моцныя. Пасля сеансу ён праводзіў мяне дамоў, а на наступны дзень з'явіўся без запрашэння з падарункам. У руках ён трымаў вялікае палатно, на якім было намалявана Садовае Кальцо з чырвоным трамваем «Б» у буйных зялёных зарасніках Новінскага бульвара.

Лёс распарадзіўся так, што амаль да самай яго смерці мы ніколі больш не расставаліся...

Хто ж такі быў мастак Раман Семашкевіч? У кнізе «Мастакі групы «13», што выйшла ў 1986 годзе, М. Неміроўская пісала: «Семашкевіч — адна з вельмі яркіх і невядомых фігур у савецкім мастацтве 20—30-х гадоў». Гэта не так. Выстаўляцца жывапісец пачаў яшчэ студэнтам — з 1924 года. У год заканчэння ВХУТЭІНа, у 1930 годзе рускі музей набыў яго карціну «Чайная», Траццякоўская галерэя — карціну «Аўтадор». Вясной 1931 года мастакі групы «13» запрасілі Рамана прыняць удзел у іх выстаўцы ў актавай зале Маскоўскага універсітэта. А ён гатовы быў выстаўляцца хоць кожны дзень...

Народны мастак РСФСР, член-карэспандэнт Акадэміі мастацтваў СССР Т. Маўрына пісала пра Р. Семашкевіча: «У яго атрымліваліся палотны, якія хацелася мець у сябе дома, і не мне адной. Ён адразу неяк стаў марай калекцыянераў». У тым жа 1931 годзе Раман Семашкевіч адкрыў персанальную выстаўку на Вялікай Дзмітраўцы ў памяшканні былога Купецкага клуба. На гэтай выстаўцы было прадстаўлена каля двухсот жывапісных палотнаў і больш за 150 малюнкаў тушшу. Выстаўка мела вялікі поспех. У сваіх успамінах вядомы мастак з групы «13» Уладзімір Аляксеевіч Мілашэўскі пісаў пра Семашкевіча: «Ён быў як нейкі «самародак», чысты вобраз «изобразителя», з якога «выпіралі» самі сабой, вывальваліся нібы з мяшка каштоўнасці бачанняў, фарбаў, вобразаў. Ён быў з'явай выдатнай...»

Буйнейшыя нашы дзеячы літаратуры і мастацтва былі прыхільнікамі яго цудоўнага таленту: Арцём Вясёлы, М. Віцінг, С. Герасімаў, А. Дрэвін, А. Дэйнека, К. Зданевіч, Я. Купала, Я. Колас, К. Паўстоўскі...

Што і як ён пісаў? Пісаў шмат і хутка. Пісаў старых людзей, паляўнічых, пейзажы з коньмі, са статкам, куткі горада, партрэты, кветкі, жанравыя карціны. Пісаў, парушаючы догмы і правілы. І атрымлівалася цудоўна! Яго жывапіс вызначаўся незвычайнай сілай, яркай смеласцю ліній і самых складаных колеравых спалучэнняў. Р. Семашкевіч не любіў бялілаў. Ён гаварыў, што бялілы збядняюць колер. Яго палітра была саткана з чыстых колераў, авалоданне мастацтвам скульптуры надавалі яго жывапісу і малюнку асаблівую важкасць, нязмушанасць.

Жылі мы вельмі сціпла: грошай, вядома, не было. Ды муж і не імкнуўся іх зарабляць: для Рамана галоўнае было — пісаць, пісаць. А на гэта патрэбны матэрыял. Часам, калі не было палатна, у ход ішлі любыя кавалкі тканіны, прасціны, папера. З раніцы да ночы яго можна было бачыць або з пэндзлем, або з пяром. Бясконца пісаў і маляваў мяне, ды і наогул усіх, каго сустракаў.

Свае творы Р. Семашкевіч звычайна дарыў. Яму важны быў працэс творчасці, а далейшы лёс палотнаў яго не цікавіў. Мастакі і пісьменнікі, калекцыянеры куплялі ў яго карціны і малюнкі. А прадавалася ўсё гэта за невялікія грошы. Сам жа ён ні ў кога нічога не прасіў. Памятаю, як на адной выстаўцы ў 1932 годзе Дэйнека сказаў яму: «Раман, я запісаў цябе у МАССМ». «Запісаў, ну і дзякуй», — адказаў Семашкевіч. Яму самому падумаць пра сябе не было калі.

Ён шмат выстаўляўся, творы яго ёсць у фондах музеяў Нікалаева, Чабаксараў, Таганрога, Яраслаўля, Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у Мінску, Музея выяўленчага мастацтва імя Пушкіна ў Маскве, у Траццякоўскай галерэі, Рускім музеі ў Ленінградзе...

У 1932 годзе Р. Семашкевіч паехаў у творчую камандзіроўку па Беларусі. Тут ён наладзіў выстаўкі ў Петрыкаве, Мазыры, Мінску. Пра выстаўку ў Мінску рэспубліканская газета «Звязда» надрукавала захоплены водгук. Менавіта ў той час нам давялося гасціваць спачатку ў Янкі Купалы, а потым у Якуба Коласа, з якімі Раман вельмі пасябраваў...

І яшчэ адна творчая паездка ў Беларусь, на Лепельшчыну, у апошні год яго жыцця. Ён рыхтаваўся ў той час да персанальнай выстаўкі. Але зусім нечакана ў ноч на 2 лістапада 1937 года яго арыштавалі. Больш яго я ніколі не бачыла. Усе мае доўгія пошукі былі безвыніковыя. Рамана Семашкевіча асудзілі без суда, «тройкай». Яму было тады толькі 37 гадоў. Услед за арыштам з апячатанага пакоя майстэрні органы НКУС забралі мноства карцін, падрыхтаваных да чарговай персанальнай выстаўкі — без вопісу, без панятых, як гэта належыць па законе. Недзе праз 20 гадоў пасля пасмяротнай рэабілітацыі мне давялося патрапіць на след 173 карцін, але і яны не вярнуліся да мяне. Дзе яны — невядома, гэтаксама, як невядома, дзе магіла майго мужа, мастака Рамана Семашкевіча.

Пасля арышту яго выкраслілі з жыцця. Але ён пакінуў такі яркі след, што, нават праз 50 гадоў пасля яго трагічнай смерці, Семашкевіч пачалі ўспамінаць. Бо зусім забыць — значыць збядніць сябе, савецкае мастацтва.

**Надзея ВАСІЛЬЕВА.**
г. Масква.



Аўтапартрэт. 1933 г.



Жонка мастака. 1933 г.

## ПЕРАКЛАДЫ

**Споўнілася сто дзевяноста гадоў з дня нараджэння вялікага нямецкага паэта Генрыха Гейнэ. Паміраючы на чужыне, у парыжскай «матрацнай магіле», ён не губляў веры, што слова ягонае дачакаецца другога прышэсця на родную зямлю. І яно сапраўды зноў прыйшло туды — з трыумфам. З трыумфам яно пайшло па ўсёй нашай планеце. Толькі ў Расіі, а пазней у Савецкай краіне, творы Гейнэ знайшлі некалькі дзесяткаў добрых перакладчыкаў. У нас на Беларусі вялікі паэт нямецкай зямлі загучаў у перакладах Юркі Гаўрука і Алеся Дудара, Язэпа Семяжона і Іосіфа Сіманоўскага, Аляксея Зарыцкага і Васіля Сёмухі... Але паэты маштабу Гейнэ будуць, відаць, перакладацца вечна. Таму я і наважыўся сёння паказаць некалькі вершаў Генрыха Гейнэ ў сваёй інтэрпрэтацыі чытачам «Літаратуры і мастацтва».**

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

**Генрых ГЕЙНЭ**

### З «СУЧАСНЫХ ВЕРШАЎ»

### *Палітычнаму паэту*

Спяваеш так натхнёна ты,
Як той Тыртэй, бывала.
Ды выбраў ты сабе і час,
І публіку няўдала:

Сядзяць і слухаюць усе,
І хваляць спеў заўзята:
Як многа ў ім узнёслых дум!
Як формай ён багаты!

Яны за келіхам табе
Крычаць прывыклі: «Віва!»,
А потым спеў твой баявы
Падцягваць галасліва.

Раб любіць у карчме спяваць
Пра волю да світання.
Ад гэтага пітво смачней
І лепей страваванне.
1843

### *Думкі ўначы*

Як думкі я ўначы звяру
К Германіі — больш не самкну
Ужо вачэй я гэтай ноччу.
Бо слёзы засціляюць вочы.

Ідуць гады, ляцяць гады.
Як маці бачыў я тады,
Дванаццаць год прайшло — не мала.
Туга мая нясцерпнай стала.

Я гэтую сваю тугу
Перамагчы хіба змагу?
У думках у маіх старая —
Яна... Хай бог ёй памагае!

Журбота, матчына любоў
Жывуць у кожным з тых лістоў,
Дрыготкай створаных рукою
І сэрцам, поўным неспакою...

Спагады памяць не дае:
Дванаццаць год, як я яе
Да сэрца прыціскаў пяшчотна —
Дванаццаць год жыву самотны.

Нямеччыны трывалы гмах,
Здаровы дух жыве ў грудзях...
Дубы айчыны векавыя
Вярнуць сабе змагу заўжды я.

Што край? Я б не тужыў зусім,
Каб не было матулі ў ім.
Краіну час не ў стане сцерці,
А маці можа і памерці.

З тых пор, калі прыйшлося мне
Ад'ехаць — многія ў труне,
Каго любіў. Як іх лічу я,
Душа, крывавячы, смуткуе.

Лічу... Пакуты ўсё бліжэй
Мне падступаюць да грудзей,
Як мерцвякі, ці здані, можа —
Знікаюць раптам... Дзякуй, божа!

Ды й дзякуй, божа! Зноў прыйшло
Праз вокны — Францыі святло.
Прыходзіць жонка і — усмешкай
Зганяе клопат мой без рэштказ.
1843

### *Дактрына*

Бі ў барабан і няўрымслівы будзь,
І маркітантку цалуй штомігі!
Вось табе сутнасць усіх навук,
Вось табе сэнс найглыбейшы кніг!

Люд абуджай барабанным біццём,
Кліч новы час, не шкадуючы рук,
У авангардзе заўсёды крок —
Вось табе сутнасць усіх навук!

Вось табе Гегель — навука ўся,
Вось табе сэнс найглыбейшы кніг!
Я сваім розумам гэта спазнаў:
Я ж — з барабаншчыкаў баявых!
1844

### З КНІГІ «РАМАНЦЭРА»

### *Enfant perdu**

На варце, у змаганні за Свабоду,
Стаяў я каля трыццаці гадоў.
Я не чакаў, што будзе ўзнагарода
І што жывы вярнуся я дамоў.

Я пільны быў, я не заплюшчваў вочы.
Ды мне мае адважныя сябры
Зусім спаць не давалі, бо уночы
Храплі ўсе моцна ў лагерным шатры.

Начамі часам мне было жахліва:
(Страх невядомы толькі мо дурным!)
Але заўжды зганяў яго імкліва
Я сатырычнай песняй, вершам злым.

Ружжо трымаў я цвёрдаю рукою,
Гатовы быў змагацца да канца.
І злодзей мне плаціў сваёй крывёю,
Схапіўшы ў бруха порцыю свінца.

Не я адзін страляю беззаганна:
Ёсць меткія між ворагаў яшчэ,
І — што хаваць! — на целе маім раны,
Ды й не адна, а з кожнай кроў цячэ...

Свабодны пост. Сцякаючы крывёю,
Адзін упаў. Устаў другі пад сцяг.
Я не здаюся, у парадку зброя —
Ды сэрца разарвалася ў грудзях.
1851

* Страчанае дзіця (франц.) — так называўся ў войску вартавы перадавога дазору.

# К. Т. МАЗУРАЎ:

# «ІДЭЯ ПЕРАБУДОВЫ ДАЎНО ВЫСПЯВАЛА Ў ГРАМАДСТВЕ»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).

Прыпамінаю, як аднойчы П. М. Машэраў, ён ужо быў першым сакратаром ЦК КПБ, сказаў мне: «Кірыл Трафімавіч, як мне працаваць? Бачу Брэжнева і іншых сакратароў ЦК КПСС, калі бываю на пасяджэннях у Маскве. Амаль ніхто ў мяне нічога не пытае, а Леанід Ільіч звоніць па тэлефоне толькі ў дзень нараджэння». Я сказаў яму, што званю Старшыні Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёву даволі часта і па справе. Што датычыцца цябе, то ты ведаеш, што рабіць, і рабі сабе. Якое табе яшчэ трэба кіраўніцтва? Можа, такое, якое адчуваў я, калі працаваў сакратаром ЦК КПБ? Ты ж ведаеш, што М. С. Хрушчоў амаль кожны тыдзень прабіраў мяне па тэлефоне за тыя ці іншыя прарэхі ў гаспадарцы, пра якія мы і самі ведалі, або за невыкананне рэкамендацый, якія мы лічылі непрымальнымі. Кіраўніцтва зверху тады было ўжо занадта адчувальнае.

Бескантрольнасць у працы і вольныя, накшталт «генерал-губернатарскіх», паводзіны некаторых мясцовых партыйных кіраўнікоў, дрэнны прыклад Генеральнага сакратара, які праяўляў слабасць да падхалімаў, славаслоўя і ўзнагарод пры ўмовах паслаблення калегіяльнасці кіраўніцтва, прывялі ў 70-х і пачатку 80-х гадоў да таго, што асобныя дзеячы сталі больш дбаць аб сваёй асобе, а не аб справе, а каб выглядаць лепш, пайшлі на падман, маральна разбэсціліся, сталі груба парушаць не толькі статут партыі, але і закон.

Самае небяспечнае для партыі — гэта зазнайства і чванства, грэбаванне калегіяльнасцю, адрыў ад мас. Аб гэтай небяспецы папярэджваў нас яшчэ Ленін.

XXVII з'езд партыі, ЦК КПСС зрабілі патрэбныя вывады з недахопаў у рабоце з кадрамі ў мінулым. XIX партыйная канферэнцыя, спадзяюся, распрацуе дадатковыя меры і гарантыі супраць паўтарэння ранейшых недахопаў і памылак.

— Вамі шмат зроблена для развіцця беларускай нацыянальнай культуры. Як кіраўнік рэспублікі вы ў свой час падтрымлівалі цесныя сувязі з многімі творцамі — пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, скульптарамі. З некаторымі падтрымліваеце сувязь, перапісваецеся і зараз, відаць. Даходзяць да нас звесткі, што заглядваеце ў беларускую перыёдыку, у тым ліку—і ў штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». І вы не маглі, безумоўна, не заўважыць, што як у цэнтральным, так і ў рэспубліканскім друку сёння па-новаму, у духу перабудовы, рэалістычнай пастаноўкі праблем ставяцца пытанні далейшага развіцця нацыянальных культур, нацыянальна - моўнае пытанне, праблема міжнацыянальных адносін. «Гэта ўсё жывыя пытанні, і трэба іх вырашаць», —падкрэсліў М. С. Гарбачоў на лютаўскім Пленуме ЦК КПСС. Як вам бачацца гэтыя пытанні? Якія, на вашу думку, магчымасці і сродкі існуюць для вырашэння іх, у прыватнасці для выпраўлення становішча з беларускай мовай у рэспубліцы?

— У гады, калі я працаваў у Мінску, на ўсё не хапала часу, у тым ліку і на культурны фронт. З майго боку ўвагі творчым арганізацыям, я лічу, было недастаткова. Але я бываў і на пленумах саюзаў, і ў майстэрнях мастакоў і скульптараў, сустракаўся з вучонымі, нават выступаў з прамовамі і перад пісьменнікамі, і перад вучонымі. З асобнымі прадстаўнікамі творчага цэха падтрымліваў пастаянныя сувязі.

З Максімам Танкам, Іванам Шамякіным, Генадзем Бураўкіным сяброўскія сувязі ў нас і да гэтага часу. Сябраваў я і з Петрусём Броўкам, з Андрэем Макаёнкам. Рэгулярна сустракаліся, гутарылі. З Макаёнкам быў і такі сумны выпадак. Незадоўга да сваёй смерці Андрэй Ягоравіч сустрэўся са мной у Маскве. Ён сказаў мне: «Ведаеце, Кірыл Трафімавіч, мяне непакоіць маё будучае як пісьменніка-сатырыка. На першы погляд, усё ідзе быццам добра — п'есы мае ставяць, спектаклі хваляць, а ў мяне нейкая незадаволенасць. Людзі, па-мойму, вынікаў з маёй сатыры не робяць. Жыццё ідзе па-старому. Я прашу вас: пачытайце ўсё, што я напісаў, і дайце мне свае меркаванні і заўвагі аб маёй творчасці».

Я заўважыў, што крытык з мяне ніякі. Але ён настойліва прасіў, і я згадзіўся. Засеў я за творы Макаёнка, на што пайшло шмат часу, і ўрэшце паслаў Андрэю даўжэзныя заўвагі.

Прайшло пасля гэтага мо два ці тры тыдні, аднойчы я разгарнуў газету, а там—некралог па Андрэю Макаёнку. Вось так нечакана ўсё здарылася. Я і да гэтага часу адчуваю нейкую віну перад ім.

Сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай культуры памаглі мне бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй Беларусі, вывучаць беларускую мову. Справа ў тым, што я вучыўся ў чыгуначнай школе ў г. Гомелі і скончыў 8 класаў у 1929 годзе. Беларуская мова і гісторыя Беларусі ў нашай школе не выкладаліся (Гомель і бліжэйшыя да яго паветы ўвайшлі ў склад БССР толькі ў канцы 1927 года), таму беларускую мову я вывучаў ужо пазней, самастойна. Мне дапамагло тое, што ў 1945 годзе я купіў у адной бабулі на Камароўскім рынку «Словарь белорусского наречия», складзены І. І. Насовічам і выдадзены ў Пецярбурзе ў 1870 годзе. Я зберагаю яго як рэлівію.

Гэты слоўнік дапамог мне ў 1947 годзе рэдагаваць па даручэнні ЦК КП(б)Б пераклад на беларускую мову некалькі тамоў твораў У. І. Леніна. Я і зараз чытаю не толькі «Літаратуру і мастацтва», «Голас Радзімы» і іншыя газеты і часопісы, але і мастацкую літаратуру. Сябры-пісьменнікі прысылаюць мне свае выданні. Чытаю таксама гісторыка Улашчыка, зусім нядаўна прачытаў у «ЛіМе» вельмі цікавы артыкул А. Каўко аб гісторыі беларускай літаратуры.

У апошні час і ў мінскіх, і ў маскоўскіх часопісах прачытаў некалькі артыкулаў, у якіх з сумам гаворыцца аб недахопах у справе адраджэння гістарычных помнікаў, аб праявах абыякавасці да беларускай мовы.

Гэтыя пытанні ставяцца дзеячамі культуры недарма. Пэўна, мы мала думалі аб гістарычнай спадчыне свайго народа, а яшчэ менш рабілі. Тут я бачу і сваю віну. Але ж з таго часу, як я пакінуў Мінск, прай-

**ПАЛІТЫКА, ІДЭАЛОГІЯ**

## І Беларусь, і Японія

У нашай рэспубліцы існуе вялікая цікавасць да жыцця, эканомікі і культуры японскага народа. Сталіца Беларусі горад Мінск і адміністрацыйны цэнтр прэфектурыМіягі горад Сэндай, размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы вострава Хансю, — пораднёныя гарады.

Некаторыя мінскія прадпрыемствы і арганізацыі з'яўляюцца калектыўнымі членамі таварыства СССР — Японія. Сярод іх, напрыклад, мінскі кінатэатр «Піянер». Штогод, у красавіку, у Міжнародныя дні пораднёных гарадоў, менавіта тут праводзяцца выстаўкі японскага нацыянальнага адзення, афармляюцца фотастэнды пра жыццё японскага народа, арганізуюцца сустрэчы з мінчанамі, якія наведалі Японію, праводзіцца паказ японскіх кінафільмаў.

Творчыя калектывы Беларусі знаёмяць японцаў з мастацтвам беларускага народа. У 1985 годзе японскія гледачы цёпла прымалі беларускі фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Харошкі», ансамбль мастацкай самадзейнасці з Гродна «Раніца».

Беларускія архітэктары з Брэста В. Кяскевіч і Н. Пушкоў у 1984 годзе сталі лаўрэатамі Міжнароднага конкурсу «Жыллё заўтра», праведзенага ЮНЕСКА ў Парыжы.

Мінулым летам у японскім горадзе Осака ў гадавіну трагедыі гарадоў Хірасіма і Нагасакі японскай Асацыяцыяй свабоднага друку праводзілася антываенная экспазіцыя, якая расказвала не толькі пра ядзерныя бамбардзіроўкі японскіх гарадоў, але і пра зверствы фашызму на беларускай зямлі. Беларускі раздзел прадстаўляў дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны А. Ульяновіч.

**В. ЛЕЎ,**
**лектар таварыства «Веды».**

## Да сустрэчы ў краіне паўночнага ззяння

Нядаўна па запрашэнні Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Мінск наведала дэлегацыя Таварыства «Нарвегія — Савецкі Саюз». Госці з паўночнай краіны правялі ў Беларускім таварыстве дружбы перагаворы аб правядзенні сёлетняй восенню Дзён СССР у Нарвегіі на прыкладзе Беларусі. Было дамоўлена, што ў Нарвегію прыедзе дэлегацыя Беларускага таварыства дружбы, мастацкі калектыў, будуць накіраваны выстаўкі беларускай графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, дзіцячага малюнка, беларускіх кніг, а таксама кінафільмы студыі «Бела-

шло 23 гады. Відаць, недараблялі і пасля мяне.

Сёння трэба па-новаму, у духу перабудовы ставіцца да нацыянальнай культуры і міжнацыянальных зносін. Народ, які не ведае сваёй гісторыі, не шануе яе помнікаў, пагардліва адносіцца да нацыянальнай формы — народнай мастацкай творчасці і асабліва да роднай мовы, з цягам часу становіцца касмапалітычным.

Вы пытаеце, якія сродкі існуюць для пераадольвання гэтых недахопаў. Мне цяжка адказаць на гэта, бо я ўсё ж адарваны ад Беларусі і дрэнна ведаю сучаснае становішча ў рэспубліцы. На маю думку, трэба ўсімі сродкамі зберагаць фальклор, развіваць народную мастацкую самадзейнасць, нацыянальныя традыцыі, не адрываючы іх ад шматнацыянальнай культуры савецкага народа, больш паказваць народную творчасць у тэатрах, па тэлебачанні. Гэта дапаможа выціснуць з клубных залаў, з тэлеэкрана і радыё паказ так званай «масавай», касмапалітычнай культуры — абалваньваючай рок-музыкі, нізкапробнай эстрады. Гэта хвароба заразіла значную частку нашай моладзі.

Я ганаруся песеннымі калектывамі рэспублікі, такімі, як хор імя Шырмы, дзяржаўны ансамбль танца, інструментальна-вакальнымі, як «Песняры», «Верасы», «Сябры», але (не хачу абразіць выдатныя калектывы) бачу: у манеры і гэтых ансамбляў назіраецца нейкае перайманне. Раней яны выглядалі больш нацыянальнымі.

Выклікае сум наша мастацкае малакультур'е. У мінулым годзе я пабываў па службовых справах у Аўстрыі і Грэцыі. Краіны Захаду, а як там шануюць нацыянальную культуру — народную песню, гульні, танцы. Па тэлебачанні ніякіх рок-ансамбляў там не паказваюць, у тэатрах — толькі класіка і народныя відовішчы. Народныя гульні на плошчах — зайздрасць бярэ, што ў нас такога няма.

Вядома, забароны тут не памогуць. Трэба, каб гісторыкі, пісьменнікі, асабліва паэты, мастакі, працаўнікі культуры лепш выкарыстоўвалі сродкі масавай інфармацыі, клубы, тэатральныя пляцоўкі, нават стадыёны, каб несці ў асяроддзе моладзі нашу сацыялістычную, масавую культуру.

Канечне, трэба наладзіць справу падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне культуры ў навучальных установах.

На апошнім пленуме Саюза пісьменнікаў СССР ішла гутарка аб нацыянальна-моўнай сітуацыі, аб такой з'яве, як двухмоўе, а таксама аб адносінах да роднай мовы на Украіне і ў Беларусі. Некаторыя нават прапаноўвалі заканадаўча абвясціць нацыянальныя мовы ў рэспубліках як дзяржаўныя.

Справа гэта вельмі складаная. У нашай шматнацыянальнай краіне павінна панаваць раўнапраўе ўсіх нацыянальных культур і нацыянальных моў. І задача ў тым, каб, клапоцячыся пра гарантыі для нацыянальнай мовы, не парушыць гэта раўнапраўе.

Гістарычна здарылася так, што мовай міжнацыянальных сувязей стала руская мова — мова Леніна, Пушкіна і Талстога. Таму рускую мову павінны ведаць усе грамадзяне Савецкага Саюза. У савецкіх нацыянальных рэспубліках, абласцях і акругах яна не можа лічыцца іншанацыянальнай.

Раўнапраўе моў, на мой погляд, павінна існаваць і ў школах. На Беларусі, у прыватнасці, усюды павінны існаваць школы, дзе выкладанне ідзе на беларускай мове. У той жа час беларуская мова павінна выкладацца абавязкова ва ўсіх школах. Што датычыцца людзей, якія працуюць у нацыянальных рэспубліках, асабліва ў кіраванні, ім пэўна ж патрэбна вывучаць нацыянальную мову рэспублікі.

— «Гісторыя — памяць народа, а памяць — кладоўка вопыту», — пішаце вы ў сваіх успамінах. Вывад натуральны, арганічна ўласцівы для аўтара, калі мець на ўвазе і вашу біяграфію, і вашу сённяшнюю пасаду — старшыні Савета ветэранаў вайны і працы. Вывад надзвычай актуальны сёння, калі ідзе інтэнсіўнае пераасэнсаванне фактаў і ўрокаў гісторыі краіны, у тым ліку гісторыі Савецкай Беларусі, калі ідзе ажыўленае аналітычнае даследаванне многіх закрытых да гэтага старонак нашага мінулага, старонак часам трагічных, звязаных з культам Сталіна, з сур'ёзнымі парушэннямі ленінскіх прынцыпаў сацыялізму. Якія думкі выклікае ў вас гэты працэс — больш праўдзівага, больш аб'ектыўнага асэнсавання паслярэвалюцыйнай гісторыі народа?

— Вышэй я выказаў некаторыя свае думкі па гэтым пытанні, і таму адкажу коратка.

Я камуніст і прытрымліваюся марксісцка-ленінскага дыялектычнага метаду пры аналізе гісторыі. Аналізуючы мінулае, наша сацыялістычнае развіццё, нельга не заўважыць, які складаны і неадназначны быў наш шлях у невядомую будучыню. На гэтым шляху былі і вялікія перамогі і горкія няўдачы. Народ тварыў гісторыю, і яму трэба аддаваць заслужаную павагу за яго самаадданую працу і герачную барацьбу за нашы ідэалы. Пагарда да нашага мінулага — гэта пагарда да народа. Гэта недапушчальна.

У жыцці мы рабілі шмат памылак, якія тармазілі развіццё сацыялізму. Многія з іх можна вытлумачыць тым, што мы ішлі невядомым шляхам, у абставінах знешняй ізаляцыі і пастаяннай пагрозы з боку імперыялізму. Тых памылак, што выліліся ў трагедыю, мы даравац не можам. У іх павінен Сталін і яго бліжэйшае акружэнне. Але калі мы пераасэнсоўваем нашу гісторыю з пазіцый сённяшняга дня, патрэбна чэсная дыялектычная падача фактаў у іх узаемасувязі.

Некаторыя публіцысты імкнуцца таропка перапісаць гісторыю, у пагоні за сенсацыяй. А ёсць і такія, што пераносяць віну за памылкі і рэпрэсіі 30-х гадоў на ўсё старэйшае пакаленне, замазваюць чорнай фарбай амаль усю нашу гісторыю. Робяць гэта з добрага намеру: каб мінулае не магло паўтарыцца. Намер добры, але трэба рабіць так, каб не абярнулася гэтая самакрытыка нявер'ем моладзі ў нашу гістарычную справу, палітычнай абыякавасцю, цынізмам.

Наш высокі маральны абавязак — данесці новым пакаленням усё каштоўнае, што засталося нам ад мінулага. Гэта ў духу ленінскіх традыцый. Нельга забываць таксама, што гісторыя — поле вострай ідэалагічнай барацьбы, і сёння нашы ідэйныя праціўнікі за рубяжом выкарыстоўваюць любы повад, каб пасеяць нявер'е ў заваёвы сацыялізму: у яго жыццяздольнасць, у перабудову. Наша моладзь павінна мець імунітэт супраць гэтай ідэалагічнай дыверсіі. Фарбаванне нашага жыцця толькі чорным колерам можа аслабіць гэты імунітэт.

— Мы ўжо загаварылі аб вашай сённяшняй пасадзе — старшыні Усесаюзнага Савета ветэранаў вайны і працы. Як вы адчуваеце сябе на гэтай высакароднай і, трэба думаць, нялёгкай працы? У чым яна заключаецца? Як разглядаеце задачы савета ў святле сённяшняй палітычнай і ідэалагічнай сітуацыі ў краіне? І яшчэ адно тут жа, папутна, пытанне: ці не працягваеце працаваць над успамінамі?

— Аб Усесаюзнай арганізацыі ветэранаў вайны і працы, Савет якой я ўзначальваю, многае ўжо сказана ў друку. Стварэнне арганізацыі і выбары ў 1987 годзе саветаў ветэранаў на прадпрыемствах, у навуковых і навучальных установах, у раёнах, гарадах, абласцях, краях, рэспубліках — гэта практычнае правядзенне ў жыццё лініі партыі на дэмакратызацыю, на павышэнне ролі грамадскасці ў палітычнай сістэме нашай краіны.

У задачы саветаў ветэранаў уваходзіць: дапамагаць партыі ў перабудове ўсіх бакоў нашага жыцця, у перадачы моладзі рэвалюцыйных і баявых традыцый нашага народа — у ідэйным, працоўным, маральным, ваенна-патрыятычным і інтэрнацыянальным яе выхаванні, у вырашэнні сацыяльных праблем пажылых людзей, паляпшэнні іх жыцця.

Арганізацыя ветэранаў працуе на грамадскіх пачатках. Штатны апарат ёсць толькі ва Усесаюзным Савеце (50 чалавек) і ў рэспубліканскіх па 3—5 чалавек. Ніхто са старшынь саветаў, у тым ліку і я, грошай за сваю працу не атрымліваюць. Арганізацыя ветэранаў выдае штотыднёвую газету «Ветеран».

Мінулы год мы прысвяцілі правядзенню па нашай ініцыятыве, але пры актыўным удзеле Саветаў народных дэпутатаў і іх сацыяльных устаноў, а таксама прафсаюзаў, камсамола, рэйду па абследаванні жыцця ветэранаў. У ходзе рэйду, які яшчэ працягваецца, створанымі на месцах камісіямі абследавана жыццё амаль 30 мільёнаў чалавек. Вядома, камісіі або іх упаўнаважаныя пабывалі перш за ўсё ў дамах інвалідаў вайны, пажылых ветэранаў, праверылі становішча шпіталяў для інвалідаў вайны, дамоў-інтэрнатаў для састарэлых. Многім пенсіянерам, удовам загінуўшых у час вайны аказана дапамога ў паляпшэнні ўмоў жыцця, у лячэнні, ва ўстаноўцы тэлефонаў і г. д.

Рэйд выявіў шмат фактаў недапушчальна абыякавых адносін да ветэранаў і іх патрэб з боку тых арганізацый і асоб, якія абавязаны займацца пажылымі людзьмі. Многія недахопы папраўлены. Трэба адзначыць, што ў апошні час ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі шэраг важных пастаноў аб паляпшэнні жыцця пенсіянераў. Але гэтыя пастановы некаторымі ўстановамі выконваюцца дрэнна.

Усесаюзны Савет ветэранаў аб выніках рэйду далажыў ЦК КПСС і Ураду СССР, унёс прапановы. Цяпер яны разглядаюцца. Зараз па ўсёй краіне шырыцца распрацоўка, па прыкладу арганізацый Ульянаўскай вобласці, канкрэтных праграм «Клопат» пад дэвізам: клопат аб старэйшым пакаленні — справа ўсяго грамадства.

Удзел у распрацоўцы паўсямесна праграмы тыпу «Клопат» і актыўны ўдзел у яе ажыццяўленні будзе і надалей важнай задачай саветаў ветэранаў вайны і працы.

У сакавіку гэтага года мы правялі пашыраны пленум Савета ветэранаў, прысвяціўшы яго справе выхавання моладзі ў духу патрабаванняў XXVII з'езда і лютаўскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС. Перад пленумам мы правялі пры актыўным удзеле Галоўнага палітычнага ўпраўлення Савецкай Арміі, ВЦСПС, ЦК ВЛКСМ, ЦК ДТСААФ, праўлення таварыства «Веды» навукова-практычную канферэнцыю, прысвечаную той жа тэме. 1988 год — год 70-годдзя Савецкай Арміі і Ленінскага камсамола. Саветы ветэранаў галоўную ўвагу аддадуць рабоце сярод моладзі. Хто, як не ветэраны, на практычным прыкладзе свайго жыцця зможа дапамагчы маладым людзям у вывучэнні нашай гісторыі, дапамагчы партыі захаваць пераемнасць пакаленняў. Работа на пасадзе старшыні Усесаюзнага Савета ветэранаў вайны і працы забірае ўвесь мой час. Амаль штодзённа я за рабочым сталом, разглядаю скаргі і просьбы, прымаю людзей, якія ідуць і ідуць да нас, каб вырашыць свае справы.

За гады маёй грамадскай працы спачатку ў Камітэце, а зараз у Савеце ветэранаў вайны і працы я пераканаўся ў тым, як мы дрэнна займаліся жыццём ветэранаў. Колькі сярод іх абяздоленых, адзінокіх, нават пакінутых, як мала праяўлялася ў нас міласэрнасці да тых, хто вынес на сваіх плячах усе цяжкасці даваенных гадоў, геранчна і самаахвярна змагаўся ў гады вайны супраць ворага, хто ў тыле каваў Перамогу, хто адраджаў гаспадарку пасля вайны!

У нас наяўны дэфіцыт клопату аб іх.

Вы пытаеце, ці працягваю працаваць над успамінамі. Праўду кажучы, думка такая ёсць. Але ж мала часу для працы і... ці паспею...

— Рэспубліка і Кампартыя Беларусі рыхтуюцца да свайго 70-гадовага юбілею. Скажыце, хаця б коратка, якія пачуцці выклікае ў вас як камуніста, грамадзяніна, беларуса гэтая знамянальная дата? Вядома, вы можаце адаслаць нас да вашай жа кнігі «Незабыўнае», дзе многае сказана, і ўсё ж...

— У кнізе «Незабыўнае» сапраўды сказана многа добрага аб нашай роднай Беларусі, аб маіх працавітых і сціплых земляках.

Я заўсёды ганарыўся і ганаруся сваёй рэспублікай, сачу за яе жыццём, за яе поспехамі. Блізка да сэрца прымаю трагедыю землякоў Гомельшчыны, выкліканую чарнобыльскім выбухам.

Мае пачуцці можна зразумець, бо я нарадзіўся, вырас, стаў чалавекам у Беларусі. Хаця скажу праўду, мая «малая Радзіма» ніколі не засланяла Вялікай маёй Радзімы. Я — савецкі грамадзянін. Люблю Расію так, як і Беларусь, з павагай заўсёды адносіўся да ўсіх народаў нашай краіны, маю добрых, сардэчных сяброў амаль што ва ўсіх краях Савецкага Саюза, але ўсё гэта не перашкаджае маёй асаблівай пашане да маёй роднай Беларусі.

Мне пашанцавала ў жыцці. Маімі настаўнікамі і калегамі па працы ў Беларусі былі сапраўдныя бальшавікі, працавітыя, сціплыя і добрыя людзі. Шкада, што многіх ужо няма.

Хачу пажадаць роднай Савецкай Беларусі, маім землякам у юбілейным годзе выдатных поспехаў, добрага здароўя і шчасця.

---

русьфільм». Фотавыстаўкі аб Беларусі і ахове прыроднага асяроддзя ў рэспубліцы.

Якую ж галоўную мэту ставіць перад сабой праўленне Таварыства «Нарвегія — Савецкі Саюз» у сувязі з маючымі адбыцца Днямі СССР на прыкладзе Беларусі? З гэтым пытаннем я звярнуўся да сакратара Таварыства «Нарвегія — Савецкі Саюз» Карла Гудмундсена. Ён сказаў наступнае: «Мы імкнёмся азнаёміць нарвежцаў і перш за ўсё членаў Таварыства з культурай Беларусі. Мы задаволены тым, што ў Нарвегію прыедзе мастацкі калектыў, які пазнаёміць гледачоў з танцавальнымі традыцыямі рэспублікі. Мы мелі магчымасць паслухаць вашы цымбалы. Упэўнены, што ў Нарвегіі цымбальны аркестр чакае вялікі поспех. Агледзелі выстаўкі графікі і дзіцячага малюнка. Іх таксама высока ацэняць прадстаўнікі нарвежскай грамадскасці.

Мы ўжо распрацавалі план правядзення Дзён і абмеркавалі яго ў Беларускім таварыстве дружбы,— працягвае К. Гудмундсен.— Афіцыйнае адкрыццё адбудзецца ў адным са старажытных гарадоў Нарвегіі — Транхейме. Гэта адзін з буйнейшых гарадоў цэнтральнай часткі краіны з багатымі культурнымі традыцыямі. Пасля мерапрыемствы працягнуцца ў сталіцы Осла, горадзе Сарсборгу і некаторых іншых гарадах Нарвегіі, у якіх з нецярпеннем чакаюць беларускіх прадстаўнікоў».

У час гутаркі мае субяседнікі падкрэслілі, што, нягледзячы на існаванне агульнай граніцы паміж Нарвегіяй і Савецкім Саюзам, мы слаба ведаем адзін аднаго. Яны сапраўды маюць рацыю. Ці многія з нас ведаюць, што сёння Нарвегія з'яўляецца адной з самых багатых краін свету, па велічыні нацыянальнага даходу на душу насельніцтва ўжо ў 70-х гадах яна ўваходзіла ў першую дзесятку капіталістычных краін свету, а па прыросце прамысловай прадукцыі ўступае толькі Японіі? Заходнія краіны лічаць, што гадоў праз дзесяць Нарвегія стане іх асноўным пастаўшчыком прыроднага газу. Але перш за ўсё Нарвегія асацыіруецца ў кожнага з нас з імёнамі кампазітара Эдварда Грыга, драматурга Генрыка Ібсена, даследчыкаў і падарожнікаў Руальда Амундсена, Фрыцьёфа Нансена, Тура Хейердала... Дарэчы, Нарвегія — адна з самых чытаючых краін свету, на тысячу жыхароў тут выпускаецца больш за 600 экземпляраў газет...

Але ці ўсё так добра ў суседняй краіне? К. Гудмундсен расказаў і аб праблемах, якія штодня абмяркоўваюцца ў нарвежскім друку.

— Нягледзячы на добрае развіццё нашай эканомікі,— гаворыць ён,— усіх нарвежцаў хвалюе тое, што імпарт значна перавышае экспарт. А трэба, каб было наадварот. Такая з'ява абясцэньвае нашу валюту, адмоўна ўплывае на развіццё краіны. Па-другое, у Нарвегіі, як і ў іншых заходнееўрапейскіх краінах, вельмі мала ўвагі надаецца грамадскаму сектару. Не хапае фінансавых сродкаў для аховы здароўя, адукацыі. Мы патрабуем ад урада значнага павелічэння асігнаванняў на гэтыя мэты.

— Вельмі востраў у Нарвегіі з'яўляецца жыллёвая праблема,— далучаецца да нашай гутаркі член дэлегацыі Гуннер Лёкен.— Кватэр не толькі не хапае. Яны яшчэ і вельмі дарагія.

У багатай Нарвегіі адбываецца пэўны крызіс школьнай сістэмы. К. Гудмундсен расказаў, што ў той дзень, калі яны накіроўваліся з Осла ў Савецкі Саюз, у Нарвегіі дзеці не пайшлі ў школу, бо працягвалася ўсеагульная забастоўка настаўнікаў. «Гэтая забастоўка,— дадаў Г. Лёкен,— доўжыцца два тыдні. І ніхто не ведае, калі яна закончыцца. Галоўная прычына забастоўкі — вельмі дрэннае забеспячэнне школ усім неабходным для вучэбнага працэсу. Не хапае кабінетаў, лабараторый. Акрамя гэтага, настаўнікі не задаволены нізкай заработнай платай. Патрабуюць яны таксама скарачэння працоўнага дня ў школах».

Мае нарвежскія субяседнікі расказалі, як у іх краіне ахоўваюць прыроднае асяроддзе ад забруджвання. Гэтая праблема выклікае ўсеагульную заклапочанасць у Нарвегіі. Ёсць шмат выпадкаў, калі прамысловыя прадпрыемствы парушаюць законы аб ахове прыроды. Як з гэтым змагаюцца? Урад пайшоў нават на тое, каб закрыць прадпрыемствы-парушальнікі. Шмат у Нарвегіі ініцыятыўных груп, якія змагаюцца супраць забруджвання зямлі і паветра. Іх дзейнасць досыць эфектыўная.

На маё апошняе пытанне: з якім уражаннем аб Беларусі вяртаюцца яны ў Нарвегію, Г. Лёкен сказаў, што яго, напрыклад, уразіла наведванне Выстаўкі народнай гаспадаркі БССР. Ён не мог уявіць сабе, што Беларусь з'яўляецца такой высокаіндустрыяльнай рэспублікай, выпускае складаныя машыны, разнастайную сучасную апаратуру, якую ахвотна купляюць у замежных краінах.

Было прыемна гэта чуць з вуснаў нарвежскага госця. Будзем з нецярпеннем чакаць Дзён БССР у Нарвегіі, сустрэч з міралюбівым, таленавітым народам.

Г. ГУСЕЎ,
супрацоўнік БТДКС.

## НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# ТАМ, ЗА ГАДАМІ

### РАСКАЗ НАРАЧАНСКАГА РЫБАКА

Мы СЯДЗЕЛІ ўдвух на беразе возера і чакалі рыбаноў з позняй тоні. Мой субяседнік, патомны рыбак Уладзімір Мікалаевіч Цяляк, нетаропка памешваў юшку ў кацялку, глядзеў, як вострыя языкі полымя прагна лiжуць сушняк, як ціха дрыжаць у вадзе цёплыя летнія зоры.

Я даўно чуў пра Уладзіміра Мікалаевіча — удзельніка паўстання нарачанскіх рыбакоў, некальні разоў збіраўся з ім сустрэцца, але ўсё неяк не выпадала. Нарэшце, у гэты свой прыезд на Мядзельшчыну, знайшоў такую магчымасць.

— Пра наша паўстанне хочаш паслухаць? — спакойна перапытаў Цяляк. — Пачну з таго, што паўночныя берагі Нарачы, гэта акурат з нашага боку, гарыстыя, карысці з такой зямлі мала: пасадзіш кошык бульбы — стольні ж і выкапаеш. Але нашы мужыкі, мае дзяды і прадзеды, нікуды не з'язджалі, бо пад бокам была іх адзіная карміцелька — Нарач. Сяляне прыазёрных вёсак ужо ці не ад самой прыгоншчыны мелі права лавіць тут рыбу. Пры буржуазнай Польшчы жыць стала цяжанька. Нам забаранілі свабодную лоўлю рыбы. У трыццаць пятым возера перадавалася Віленскай дырэкцыі дзяржаўных лясоў. Тая ж здала возера ў арэнду акцыянернаму таварыству, якім кіраваў жаднюга Яблонскі. Нам жа сказалі: «Вы не біце лынды, а наймайцеся на работу да арандатара, калі хочаце, каб у сям'і быў кавалак хлеба. Да арандатара рыбакі не пайшлі, а па-ранейшаму пачалі лавіць рыбу, не зважаючы на пагрозы паліцыі.

Уладзімір Мікалаевіч надоўга задумаўся. Паўстагоддзя прайшло з тых часоў, калі ён быў малады і здаровы, і дужы...

— Ды што мы маглі зрабіць з панамі? — працягваў ён. — У іх жа ўся ўлада. Тады мы пачалі ноччу збірацца групкамі і секчы ў лёдзе на лепшых тонях праламкі. Прасячом лёд пешняй і туды, пад лёд, якую старую касу ці прэнт — шась... Прымерзнуць яны, пасля паспрабуй, панок, пацягні невадам...

Дапоўню цікавы расказ удзельніка паўстання нарачанскіх рыбакоў сёй-той інфармацыяй, якой валодаю і якая больш поўна характарызуе падзеі, што адбываліся тады на берагах Нарачы. У звароце ЦК КПЗБ да сялян-рыбакоў возера Нарач і другіх азёр Заходняй Беларусі гаварылася: «Не ад бурнага хвалявання гэтага «Літоўскага мора», як паны любяць красамоўна называць наша возера, а ад вашага абурэння, якое закіпела, устрывожыліся паны-гаспадары. А вы з гонарам, без боязі, з упэўненасцю ў свае сілы адказалі: «Нарачанскі народ жадае таго, што і ўсе народныя масы ва ўсім краі — мы жадаем жыць». І калі сяляне вёскі Пасынкі сёлета першы раз з'явіліся на возеры, іх спаткалі вартаўнікі лясной дырэкцыі, каб адабраць у іх сеці. Яшчэ большае нахабства выявілі «ланцуговыя сабакі» дырэкцыі ў вёсцы Купа. Прыйшлі яны да рыбака Каралёнка да хаты, гвалтам хацелі ў яго забраць рыбу і сець. Але хутка паднявольнікам давялося пераканацца, што яны фальшывы рахунак зрабілі. Замест бяздарных, горам прыбітых рыбакоў, якія спакойна дадуць сябе крыўдзіць, яны сустрэлі велізарную сілу гаспадароў, якія ўсегалосна, грамадой заявілі: «Лавілі мы рыбу ад дзеда і прадзеда — будзем і далей лавіць».

Як вядома з архіўных дакументаў, вырашылі паны адабраць у рыбакоў сеці, ды нарачанцы, нягледзячы на забарону, працягвалі лавіць рыбу. І тады быў прысланы атрад паліцыі, пачаліся арышты найбольш актыўных рыбакоў. За аказанае супраціўленне органам улады арыштавалі Міхала Роліча з вёскі Наносы, Міхала Субача з Пасынак, Міхала Каралёнка з Зялёнак. Гэта абурыла рыбакоў яшчэ больш:

— Мы выручым таварышаў і не дадзім возера! Яно наша!

Баючыся, што рыбакі нападуць на пастарунак у Кабыльніках, дзе ўтрымліваліся арыштаваныя, паліцыя вывезла іх у Паставы. Дырэкцыя вырашыла рыбакоў угаварыць. З Пастаў прыехаў павятовы стараста, з Вільні — ваявода са шматлікай світай, склікалі сход і прапанавалі рыбакам не бунтавацца, а пайсці да арандатара, які, маўляў, будзе плаціць добрыя грошы.

Ніхто не згадзіўся. Тады Яблонскі і дырэкцыя лясоў запрасілі рыбакоў з іншых мясцін. Але не атрымалася: людзі былі салідарныя з нарачанцамі, і невады сухімі ляжалі на беразе.

— ...Дзе ж тыя рыбакі з тоні прапалі? — уздыхнуў Уладзімір Мікалаевіч. — Праз пяць мінут і юха гатовая...

Ён кіем падварушыў вугалле, чырвоныя іскры паляцелі ўверх.

— Во, браток, косці ўжо не хочуць прастацца. Ды і ўсе мы пастарэлі, ссівелі, счарнелі. І з тых рыбакоў-паўстанцаў мала хто жыве. Васіль Булаўка яшчэ, Мішка Зарэцкі. Але ўсе, як і я, ледзь ходзяць.

— А хто такі Булаўка? — запытаў я. — Не з Галубанек? Яму гадоў восемдзесят?

— Ён самы. Мы ж хацелі тады і судзіцца з панамі. Ездзілі ў Варшаву, у Вільню. Ездзіў Сцяпан Каротні і Васіль Булаўка. У гміне на словах былі за нас, таму мы і напісалі паперу і адправілі ў Варшаву ганцоў. Падпісала больш за сто чалавек, ніхто не збаяўся, доўга мы ваявалі, але ўсё такі далі нам «Уступ» — так называлася права на лоўлю. Рыбакам паны заадно паабяцалі лепш плаціць за злоўленую рыбу. Ды ўсё гэта была мана.

Да нас прыязджалі і памагалі судзіцца за права карыстацца возерам двое камуністаў — мужчына і жанчына. З'яўляліся яны тольні ноччу. Ілья Зарэцкі займаўся гэтай справай разам з імі, шукаў для іх кватэры, дзе мы і сустракаліся. Зарэцкі быў нашым завадатарам, рэвалюцыянерам. Кожны год, як толькі Першае мая, яго бралі...

Я не перабіваў яго гаворку, а ўважліва слухаў. Пасля старому рыбаку напомню прозвішчы гэтых камуністаў, якія канспіратыўна прыходзілі на Нарач і кіравалі забастоўкай.

...З першых дзён стыхійнага выступлення ЦК КПЗБ вырашыў надаць барацьбе арганізаваны характар. У адозве «Брацкае слова да рыбакоў возера Нарач» указвалася, што толькі згуртаванасць дапаможа перамагчы паноў. «Возера Нарач, — гаварылася ў адозве Глыбоцкага акружнога камітэта партыі, — належыць не акупантам, а нарачанскім рыбакам і сялянам. Толькі пры дапамозе масавай барацьбы вы зможаце адстаяць свае правы. Змагайцеся арганізавана за права свабоднай лоўлі і продажу рыбы. Збірайце масоўкі і мітынгі ў вёсках! Прымайце рэзалюцыі пратэсту супраць фашысцкага рыбнага статута, супраць перадачы возера Нарач дырэкцыі дзяржаўных лясоў. Выбірайце камітэты аховы правоў рыбакоў і сялян на возеры... Стварайце дружыны масавай самаабароны для аховы вашых сетак і лодак на возеры ад паліцэйскіх банд!»

Кіравалі забастоўкай, прыехаўшы тайна сюды, член Маладзечанскага акруговага камітэта партыі А. Шчасная, інструктар ЦК КПЗБ А. Багданчук. У чэрвені 1935 года быў абраны забастовачны камітэт. У яго ўвайшлі М. Субач з Пасынак, К. Субач з Мікольцаў, І. Чарняўскі таксама з Мікольцаў, І. Зарэцкі з Чараўкоў. Паліцэйскія не спынялі вобыскаў, арыштаў, шукалі аўтара песні нарачанскіх рыбакоў.

— А вы памятаеце тую песню? — пытаюся я. Мне захацелася пачуць яе з вуснаў старога.

Ён прыплюшчыў вочы, уздыхнуў і заспяваў. Голас старога быў хрыплаваты, быццам выветраны доўгімі гадамі работы на возеры, але зычны:

Рыбакі нарачанскі, сяляне,
Вы збірайцеся ўсе ў грамаду.
Не давайце вы рыбы
фашыстам,
Не спраўляйце арматаў
яму...

Пасля першай страфы голас яго сарваўся, ён уздыхнуў: «Эх, старасць, нікуды не дзенешся». Далей не спяваў, а гаварыў:

Для нас Нарач ёсць родная
маці —
Нас паіла, карміла сыноў.
Не дадзім мы яе ў абіду,
А ўсёй сілай адгонім паноў...

— За гэту песню ўзялі Косцю з Мікольцаў. А мы хоць і нацярпеліся гора з-за гэтай песні, а ўсё адно шанавалі яе і берaглі. А вы яе ўсю запішыце, — папрасіў мяне стары. — Бо скора яна прападзе, а так — застанецца. О-го-го, як яе некаторыя не любілі! Аднойчы, помню, ішлі мы спулкай з Купы і пелі на Сарапонаве — так называецца высокі ўзгорак на беразе Нарачы. Якраз ехаў па гасцінцы паліцэйскі з Кабыльнікаў Кусніца. Не бачылі мы яго вазон, якраз у лагчынцы ля рэчкі быў. Параўняўся з намі, вытрашчыў вочы, як чорт балотны, глянуў зверам, ды пугай па кані як лясне! Той аж на дыбкі ўзвіўся... Баяўся Кусніца нас, не зачапіў. А пасля аштрафавалі, сабакі, на шэсць злотых...

Наказ старога я выканаў — запісаў гэту песню. Такой яе склалі простыя людзі, рыбакі, не вельмі дасведчаныя ў грамаце, але ў песні адчуваецца душа нарачанскага рыбака тых няблізкіх ужо часоў, яго прага волі і свабоды.

Аб жахлівых днях у Бярозе-Картузскай Канстанцін Субач пісаў: «У канцлагер мяне выслалі, помсцячы за ўдзел у паўстанні нарачанскіх рыбакоў. Прывялі ў лагер ноччу. Раздзелі дагала, абшукалі, забралі хатулёк з прадуктамі, жорстка збілі, затым зацягнулі ў камеру і кінулі на падлогу каля парашы. Агледзеўся, бачу: вялікі пакой, у ім на нарах людзі ляжаць, быццам мерцвякі. Раптам чую, хтосьці за плячо мяне тузае і шэпча: «Трымайся, не здавайся».

Рыбакі не здаваліся. Іх барацьбу падтрымалі рыбакі Браслаўшчыны, усяго Віленскага ваяводства. Газета «Варшаўскі дзённік нарадовы» ў 1936 годзе пісала: «У выніку канфлікту паміж рыбакамі і дырэкцыяй дзяржаўных лясоў, пад націскам салідарнай барацьбы сялян, дырэкцыя фактычна адмовілася ад праў уладальніка возера. Прававая камісія на падставе дакументаў вымушана была прызнаць, што, пачынаючы з XVI ст., возера належала і належыць прыватным асобам, г. зн. з'яўляецца ўласнасцю насельніцтва, што жыве на беразе возера».

Дрыготкая начная цішыня панавала над зямлёй. Праз нейкі час пачулася далёкае, а таму і глухое, тарахценне катэра.

— Дзякуй богу, плывуць паўночнікі, — Уладзімір Мікалаевіч чуйна прыслухаўся. — Во, і вы сасмаглі, і я есці захацеў. Пэўна, нешта злавілі.

Весела гарэў касцёр. Кацялок з юшкай, зняты з агню, астываў наўзбоч. Мой субяседнік накіраваўся да берага:

— Падыду, памагу падцягнуць чаўны. Дагаворым пасля, знаеш, дзе мая хата? Прыходзь, гасцям я заўсёды рады...

Я часта вяртаюся да блакнота, дзе занатаваны расказ старога, гартаю яго і зноў думаю пра падзеі ўжо далёкага ад нас 1935 года, думаю пра тых людзей, што тварылі гісторыю. Гісторыю, якой мы, унукі і праўнукі іх, можам ганарыцца.

Вячаслаў ЛАПЦІК.




З 18 па 24 красавіка

18 красавіка, 19.25

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты тыдня.

18 красавіка, 20.00

**«СТУПЕНІ МАЙСТЭРСТВА»**

Пра творчасць канцэртмайстра заслужанай артысткі БССР Л. Максімавай расказваюць кампазітары С. Картэс і Г. Гарэлава.

Вакальныя творы замежных, рускіх і беларускіх кампазітараў выконваюць салісты ДАВТа Э. Пелагейчанка, М. Маісеенка, Н. Кастэнка, Н. Руднева, В. Цішына, М. Рысаў, салісты Белдзяржфілармоніі А. Шчарбакоў і А. Прыходзька (габой).

19 красавіка, 21.50.

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

Прэм'ера кнігі В. Гігевіча «Мелодыі забытых песень»; у рубрыцы «Нашчадкі» А. Мальдзіс раскажа пра лёс сядзібы Грушаўка Ляхавіцкага раёна і Друйскі касцёл бернардзінцаў; спектакль «Надзея Путніна, яе час, яе спадарожнікі» прадстаўляе галоўны рэжысёр акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы В. Раеўскі; пра выданне «Гісторыя мастацтва Беларусі» расказвае яго навуковы кіраўнік Л. Дробаў.

21 красавіка, 19.35

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы П. Панчанкі чытае А. Гарцуеў.

22 красавіка, 18.40

**«СВЯЦІ, ЗАРА!»**

Араторыя Я. Глебава. Выканаўцы — М. Маісеенка, Н. Галеева, арганіст А. Рудніцкі, дзіцячы хор Спецыяльнай музычнай школы пры Дзяржкансерваторыі, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Шырмы, Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр БССР.

23 красавіка, 19.35

**«БЫВАЕ З ВАМІ ГЭТАК, ЯК СА МНОЙ?..»**

Творчы партрэт паэтэсы Н. Тулупавай. У перадачы бяруць удзел А. Вярцінскі, В. Сёмуха, А. Лойка, В. Блакіт, І. Лучанок.

23 красавіка, 23.15

**«ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ»**

Спяваюць У. Кузьмін і група «Дынамік».

23 красавіка, 16.30

**«ПРА МУЗЫКУ АД «А» ДА «Я»**

У выпуску — расказы пра славутую «Беларускую хатку», якую называюць калыскай беларускага мастацтва, а таксама пра кіргізскі музычны інструмент камуз і творчасць народнага артыста СССР Б. Мінжылкіева.

23 красавіка, 19.45

**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ»**

«Вяселле ў Траецкім». Фальклорна-этнаграфічная кампазіцыя з удзелам ансамбля «Неруш».

23 красавіка, 22.50

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01148 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.